ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 37 (2499)
ПЯТНІЦА
12
чэрвеня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.

# 14 ЧЭРВЕНЯ—ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ СССР



Наваполацкі нафтагігант — сёння. Галоўная ўстаноўка фенольнай ачысткі масла.

**САВЕЦКАЯ УЛАДА. Якое велічнае і шматзначнае паняцце. Савецкая ўлада — гэта нашы будні, напоўненыя гоманам вялікіх будоўляў, гэта смех шчаслівай дзятвы, гэта студэнт, унук непісьменнага селяніна, што схіліўся над мікраскопам, гэта грамаддзё нашых планаў, наш магутны поступ да камунізма.**

**І калі паслязаўтра, 14 чэрвеня 1970 года, мы з табой, дарагі таварыш, прыдзем на выбарчы ўчастак, каб прагаласаваць за народнага выбранніка ў Вярхоўны Савет СССР, мы яшчэ раз прагаласуем за нашу родную Камуністычную партыю, Савецкую ўладу, за наша жыццё, што будуецца па запаветах вялікага Леніна.**

**Яно цудоўнае — наша жыццё. Цудоўнае ў кожнай сваёй праяве, цудоўнае ў тых велізарных зменах, якія мы адчуваем, бачым вакол сябе на кожным кроку.**

Дзесяць гадоў назад «Літаратура і мастацтва» расказала чытачам, як на беразе Заходняй Дзвіны нараджаўся горад, пра мужную працу будаўнікоў, пра справы і мары юнакоў і дзяўчат, што прыехалі з розных куткоў на будаўніцтва Полацкага нафтаперапрацоўчага завода.

Нядаўна спецыяльныя карэспандэнты «Літаратуры і мастацтва» І. Клаз і Ул. Крук пабывалі ў Наваполацку. Пра тое, як жыве малады горад сёння, расказваецца ў рэпартажы, змешчаным на 3-й старонцы.



А так пачыналася яе ўзвядзенне (люты 1960 года).

# ПА ТОЙ БОК «БЕЗЫМЕНКІ»

У ЗАРАХ Пятра Мікітавіча я не заспеў. Па калгасных справах ён выехаў у Магілёў і вярнуцца мог толькі праз дзень-другі. Размова з ім, на якую мяне падбіваў дырэктар Чэрыкаўскага галаўнога кінатэатра Ліпянкоў, не атрымалася, і я збіраўся вярнуцца назад у Чэрыкаў. Але зусім выпадкова сустрэча з даяркамі на ферме кінула праменьчык на старшыню — якраз з таго боку, з якога мне і хацелася прыглядзецца да чалавека:

— Паехаў засветла. Учора ў кіне быў. Глядзелі, як трэба торф берагчы...

— І ён глядзеў?

— Выступаў...

Старшыня калгаса і сельскі кінаэкран. Няма праблемы?.. Падставы для роздуму, для размовы — ёсць. Напэўна, ёсць і праблема. Бо, будзем гаварыць прама, пустуюць залы, калі на вясковым экране ідзе дакументальны ці навукова-папулярны фільм, не збіраюць яны таго гледача, якога збіраюць «Фантамас» або «Стаўка, большая за жыццё». І не было б каму ў Зарах, як гэта было ў суседніх вёсках, глядзець фільм «Торф у агні», калі б не старшыня.

Не ведаю, пра што гаварыў Пётр Мікітавіч Піталеў перад дэманстрацыяй гэтага фільма, але па кароткай размове з даяркамі адчуваю, што паміж імі, гледачамі, і кінаэкранам ён быў вельмі патрэбны. Мае адчуванні больш смелыя таму, што падобныя думкі я чуў і раней, і не толькі ад Ліпянкова.

Не сёння і не ўчора зразумеў ён, калгасны старшыня, што развіваць калгасную вытворчасць нельга, калі не даваць калгасніку глыбокіх ведаў і навейшых звестак па агратэхніцы, заатэхніі, механізацыі. Кнігі — добра. Семінары — добра. Але мова кінаэкрана хіба слабейшая? І чаму кінаэкран павінен толькі даваць адпачынак, весяліць, зрэшты, чаму ён павінен гаварыць з калгаснікам толькі на тэмы маралі, сусветных падарожжаў, аб каханні і разводах па-італьянску, па-французску, па... Ён жа можа наглядна, канкрэтна, пераканаўча вучыць калгасніка, як весці гаспадарку, даглядаць цялят, рамантаваць тэхніку. Кінаглядач яшчэ не прывык да гэтага? Але ж яго можна прывучыць, даказаць карысць, неабходнасць гэтага, прывіць, урэшце, густ. І вось старшыня калгаса прыходзіць у клуб. Пачынаецца сельскагаспадарчы фільм, а ён выходзіць да экрана і вядзе аб гэтым фільме гутарку. Як чалавек з вышэйшай сельскагаспадарчай адукацыяй, вопытны калгасны кіраўнік, ён многае растлумачыць, звяжа матэрыял фільма з прыкладамі свайго калгаса, дасць канкрэтныя парады. Калі трэба, папросіць спыніць фільм. Некалькі мінут на размову па тэме — і кінастужка пракручваецца далей...

Вось чаму калгас заўсёды своечасова афармляе дагаворы на паказ навукова-папулярных фільмаў, а мясцовыя кінапракатныя арганізацыі мараць аб тым, каб усе старшыні калгасаў павучыліся ў Піталева любіць і разумець экран.

Навукова-папулярны і дакументальныя фільмы, безумоўна, з поспехам заваёўваюць свой пастаянны экран на вёсцы, у райцэнтрах. У час нядаўняга фестывалю сельскагаспадарчых фільмаў у Чэрыкаўскім раёне планавалася паказаць 180 кінастужак, а прайшло па экранах 583. У Крычаве мне расказвалі, што дакументальны фільм «Жыццё ў агні» пра былога старшыню калгаса «Рассвет» легендарнага Кірылу Пракопавіча Арлоўскага праходзіў у перапоўненай зале. Ва многіх раёнах рэспублікі з вялікім поспехам ішлі фільмы «Арліная крыніца» і «Генерал Пушча». Праўдзівая дакументальная аснова, жывы голас нашых сучаснікаў на экране хвалююць гледача асабліва моцна там, дзе фільм зроблены на вялікім ідэйным зарадзе, на багатым матэрыяле, памайстэрску. Але...

Гаворку, усё ж, карысна павярнуць і ў другі бок. Ад задаволенасці — да неспакою. Ад прыкладаў радасных — да бязрадасных.

У тым жа Крычаве дырэктар міжраённай кінапракатнай базы Ягор Іванавіч Капсэт вельмі незадаволены тым, што дырэктар саўгаса «Крычаўскі» Калачоў ужо трэці год не заключае дагаворы на паказ у саўгасе сельскагаспадарчых фільмаў. Безумоўна, такія адносіны да навукова-папулярнага экрана нельга ўхваліць. Але не варта спяшацца лаяць Калачова. Ёсць жа і ў яго пэўныя меркаванні? Ёсць. І з лёгкасцю адмесці іх ніяк нельга.

— Я не супраць фільма, — кажа ён. — Я супраць фільмаў выпадковых, якія не адпавядаюць профілю гаспадаркі. Наш саўгас жывёлагадоўчы. Шмат садоў. Ёсць цэх па вырабе пладова-ягадных він, торфапрадпрыемства на тэрыторыі саўгаса. Вось і дайце мне фільмы па адкорме жывёлы, доглядзе за садамі, па вырабе він, нарыхтоўцы торфу. На такія фільмы дагавор заключу з радасцю.

Такіх фільмаў база прапанаваць не можа.

Калачоў — гаспадарнік. Кожны саўгасны рубель ён хоча траціць з аддачай, і каб аддача была найбольшай. Хто папракне яго за гэта? Відаць, тут трэба шукаць узаемаразумення і ўзаемазадавальнення.

Студыя «Беларусьфільм» і Міністэрства сельскай гаспадаркі рэспублікі павінны ведаць запатрабаванні гаспадарак, калі плануюць выпуск навукова-папулярных фільмаў. Вядома, магчымасці іх у выпуску сельскагаспадарчых фільмаў не вельмі багатыя, але і не такія бедныя. Да таго ж, у фільматэках кінапракатных баз ёсць шмат цікавых тэматычных сельскагаспадарчых стужак Цэнтральнай студыі навукова-папулярных фільмаў. І тут ужо вінаваты кінапракат. Цікавы матэрыял не павінен залежвацца або ісці не па адрасе. Тэматыку наяўных фільмаў трэба своечасова даводзіць да ведама гаспадарнікаў. Кіраўнікі і спецыялісты гаспадарак павінны мець магчымасць загадзя азнаёміцца з гэтымі фільмамі, перш чым заключаць на іх дагаворы.

Лёс фільма, у тым ліку дакументальнага і навукова-папулярнага, у руках не толькі кінематаграфістаў, якія працуюць над ім. Не ў меншай ступені лёс гэты залежыць ад работнікаў кінапракату. Наглядны прыклад — з тым жа фільмам «У агні жыцця». У той час, калі ў Крычаве ён ішоў з поспехам, у Касцюковічах сеанс сарваўся — не сабралі гледача. Дырэктар галаўнога кінатэатра А. Емяльянаў тлумачыць: «...Біліся, біліся, каб паказаць фільм з поспехам, а сеанс скамячыўся». Дык мо не так «біліся»? І ці трэба «біцца», каб паказаць добры фільм пра чалавека, які на доўгі час звязаў свой гераічны лёс з Магілёўшчынай, чалавека, аб якім і тут, у Касцюковіцкім раёне, ходзяць легенды. Глядач на такі фільм заўсёды прыйдзе з радасцю, толькі раскажыце яму аб гэтым фільме загадзя, хоць коратка пазнаёмце. А гэта лёгка зрабіць і на старонцы раённай газеты, і ў чарговай перадачы раённага радыёвяшчання. Ёсць і іншыя сродкі.

Дарэчы, папярэдняй размовы аб навукова-папулярным і дакументальным фільме ў нас амаль не бывае. І гэта ва ўмовах, калі амаль зусім няма рэкламнага матэрыялу на іх. Добра, калі ў вёсцы знойдзецца такі энтузіяст, як Піталеў. А калі яго няма? Мастацкі фільм яшчэ не выходзіць на экран, а мы ўжо ведаем пра яго з рэцэнзій і водгукаў, знаёмстваў з рэжысёрам, сцэнарыстам, акцёрамі. У гэтым гледачу дапамагаюць і газеты, і часопісы, і тэлевізійны экран. А дакументальны, навукова-папулярны фільм ці то не дарос да гэтага жыцця, ці то яму і забаронена расці, наканавана звекаваць у пасынках кінапракату.

У Ветцы дырэктар галаўнога кінатэатра Міхаіл Аляксеевіч Карэба, калі зайшла гаворка аб рэкламным матэрыяле, раптам зірнуў на мяне з вясёлай іроніяй:

— Ёсць рэклама.

— І шмат?

— На ўсе фільмы...

Але тут жа ўсміхнуўся і дадаў:

— Безыменка.

А «безыменка» — гэта чысты аркуш паперы, на якім зверху стаяць два словы: «Сёння ў кінатэатры». Далей — сам кінамеханік павінен паказаць свае мастацкія здольнасці. Чарнілам, фарбай, алоўкам — што ёсць пад рукой. Аб «прыцягальнай сіле» такой рэкламы не варта нават і гаварыць.

Праўда, бывае і не такая рэклама.

Капсэт паказваў мне лістоўку, выпушчаную Магілёўскай абласной канторай кінапракату да выхаду на экраны фільма «У агні жыцця». Ініцыятыва магла б і парадаваць, калі б... Лістоўка зроблена так сумна, суха, што горш і не прыдумаеш. Тэкст яе агульны, фразы шаблонныя, ніводнай дэталі, жывога штрыха аб жыцці героя фільма. Зразумела, нейкую інфармацыю гледачу дае і такая рэклама. Але яна магла б даць яму значна больш, калі б пісалася свежым словам, аб канкрэтных фактах з біяграфіі, калі б выкарысталі кадры з фільма — каларытныя, запамінальныя.

І глядач, і мясцовыя работнікі кінапракату даўно мараць мець па-мастацку зробленую рэкламу да навукова-папулярных і дакументальных фільмаў, асабліва беларускай вытворчасці. Такая рэклама, безумоўна, зрабіла б вельмі многае для выхавання ў людзей добрага густу, належнай рэакцыі ў адносінах да дакументальнага кінематографа. Яна б дапамагла чалавеку адчуць, што дакументальны фільм — гэта нічым не замянімая крыніца пазнання далёкіх краін і мацерыкоў, гісторыі і культуры народаў, шчаслівая магчымасць наглядна ўбачыць важнейшыя падзеі на зямлі, самыя цікавыя навіны, адчуць дыханне планеты.

Рэклама, безумоўна, патрэбна. Але ва ўсёй гэтай гаворцы мы не можам не ўлічыць яшчэ адну сілу кінапракату, адну з галоўных, — кінамеханіка.

Я быў у Веткаўскім раёне, калі ішло ўзнагароджанне юбілейнымі ленінскімі медалямі. У кабінеце Міхаіла Аляксеевіча Карэбы пачуўся тэлефонны званок. У трубцы — голас з вёскі Шарсцін. Званіў старшыня калгаса «Кастрычнік» Васіль Сцяпанавіч Сабалеўскі:

— Ало!.. Ці думаеце вы ўзнагароджваць Нявейкава?

Іван Раманавіч Нявейкаў даўно працуе ў Шарсціне кінамеханікам стацыянара.

— Калі вы не думаеце, дык мы прадставім да ўзнагароды...

Гэта была цікавая размова. Кінамеханік — не член калгаса. Але яго працу для вёскі, для калгаснікаў старшыня лічыў настолькі карыснай, неабходнай і сумленнай, што не мог абысці ўвагай.

— Ён жа ў мяне адзін з лепшых прапагандыстаў...

Вось! Прапагандыст ведаў! Гэта і ёсць тая сфера жыцця, дзе кінамеханік асабліва патрэбны. Такіх прапагандыстаў у нас нямала і, як правіла, кожны з іх бярэ нечым сваім. Нявейкаў праводзіць аб фільме гутарку перад сеансам, Анісім Малдаванаў з вёскі Манастырок Чэрыкаўскага раёна «бярэ» гледача афармленнем клуба. А Уладзімір Макштароў, які абслугоўвае вёскі Малінаўку, Чудзяны і іншыя, лічыць сваім абавязкам ведаць не толькі ў твар, але і па душы, па інтарэсах кожнага жыхара. Ідучы па вёсцы, ён пагаворыць не з адным чалавекам, зойдзе ў краму, кантору калгаса, у школу, у хату калгасніка — і ўсюды завядзе гаворку пра фільм, які прывёз у вёску, пра фільмы, якія будуць ісці заўтра і паслязаўтра. Жывая рэклама.

Энтузіясты ў прапагандзе дакументальнага і навукова-папулярнага фільма ў нас ёсць. Але залішне і абыякавасці, пралікаў. Ці не абыякавасць вінавата ў тым, што нават ў горадзе мы не заўсёды можам паглядзець той або іншы дакументальны фільм? У райцэнтрах, ды і не толькі там, гэтыя фільмы ідуць як дадаткі да мастацкіх фільмаў, але каб асобным сеансам — такога не бывае. Месцамі практыкавалі — малы фінансавы збор. Але практыкавалі, як правіла, удзень, калі людзі на працы. Вячэрні час — манаполія мастацкага фільма. Гэтак не толькі ў раённых цэнтрах. У Гомелі напрыклад, дакументальны фільм мае асобныя сеансы толькі ў Палацы культуры чыгуначнікаў, ды і то — два дні ў тыдзень. Калі ж дакументальны фільм ідзе дадаткам да мастацкага, дык зусім не рэкламуецца, глядач не ведае, які фільм дадаецца да мастацкага і ці будзе гэты дадатак наогул. Ды і ў Мінску глядзельная зала кінатэатра «Навіны дня», якая не ўмяшчае і дзвюх сотэнь чалавек, ужо не адпавядае цікавасці людзей да дакументальнага кінематографа.

У навукова-папулярнага і дакументальнага фільма свая дарога да гледача. На гэтай дарозе павінна заўсёды гарэць зялёнае святло. У гэтым зацікаўлены і гледачы, і кінематограф, гэтага вымагае і наш час з яго імклівай паводкай інфармацыі.

Такія думкі з'явіліся ў мяне ад сустрэчы з кінаэкранам — вясковым і гарадскім. Не ўсе набалелыя праблемы закрануты ў гэтай карэспандэнцыі. Але гаварыць аб набалелым трэба.

**В. КАРАМАЗАЎ,**
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва»




# У АБАРОНУ ЗЯЛЁНАГА ДРУГА

Беларускае таварыства аховы прыроды аб'ядноўвае каля дванаццаці тысяч пярвічных арганізацый. Амаль паўтара мільёна яго членаў стаяць на варце аховы прыродных багаццяў рэспублікі.

Актыўна працуюць сябры прыроды ў Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці. Тут амаль у кожным калгасе, саўгасе, школе, прадпрыемстве ёсць пярвічная арганізацыя таварыства.

95 арганізацый створана ў Ваўкавыскім раёне. З удзелам шырокай грамадскасці арганізуюцца месячнікі саду, тыдні лесу і іншыя масавыя мерапрыемствы. У саўгасе «Зара» сябры прыроды ачысцілі тры закінутыя сажалкі. Зараз у іх разводзіцца люстраны карп і амурскі карась. Такая ж работа праведзена ў саўгасе «Ваўкавыскі», на тэрыторыі вучэбнай гаспадаркі «Войтковічы». Новыя паркі і скверы пасаджаны ў калгасах «Радзіма», «Бальшавік», у саўгасах «Шылавічы» і «Рось», на сядзібах лесазавода і прамкамбіната. Славяцца добрымі справамі ваўкавыскія кветкаводы. Летам горад нагадвае суцэльны кветнік. Стракатыя духмяныя дываны ўпрыгожваюць паркі і скверы, вуліцы і балконы дамоў. Кветкі ваўкавыскіх аматараў прыроды не адзін раз паказваліся ў Маскве на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі. Кветкаводы В. Ральф, І. Матусевіч і Г. Жабран былі ўзнагароджаны дыпломамі першай ступені.

Хто б ні пабываў у Горках, з удзячнасцю пасля будзе прыгадваць маляўнічы куток Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Тут жыве і працуе ўлюбёны ў прыроду чалавек — заслужаны дзеяч культуры рэспублікі Дзям'ян Раманавіч Новікаў. Пад яго кіраўніцтвам створаны дэндралагічны сад, у якім сабрана звыш 600 відаў раслін.

— Сэнс жыцця, — гаворыць Д. Новікаў, — я бачу ў тым, што саджу дрэвы, даглядаю кветкі, што выхоўваю ў моладзі любоў да прыроды роднага краю.

Можна яшчэ нагадаць многа шчырых сяброў прыроды, якія з захапленнем працуюць, каб зберагчы і памножыць яе багацце і красу. Летась, напрыклад, у рэспубліцы пры ўдзеле грамадскасці было закладзена 1318 паркаў і сквераў, 2 497 алей, азелянёна тэрыторыя 40 тысяч прадпрыемстваў, устаноў, школ, бальніц, клубаў, сядзіб калгасаў і саўгасаў. Дэкаратыўнымі і пладовымі дрэвамі абсаджана звыш трох тысяч кіламетраў вуліц і дарог.

Добрага слова заслугоўваюць і юныя сябры прыроды. У рэспубліцы працуюць 263 школьныя лясніцтвы, якія даглядаюць 65 тысяч гектараў лесу.

І ўсё ж ёсць падставы гаварыць пра тое, што ахова прыроды ў нас мае шэраг істотных недахопаў. Мала яшчэ ў рэспубліцы пярвічных арганізацый таварыства. Яны створаны толькі ў трэцяй частцы калгасаў і саўгасаў рэспублікі. Многія пярвічныя арганізацыі слаба прапагандуюць сярод моладзі веды аб прыродзе і яе багаццях.

Яшчэ не ўсюды як след ахоўваюцца месцы масавага адпачынку працоўных, помнікі прыроды, вядзецца дзейсная барацьба з браканьерамі, забруджваннем рэк, азёр, лясоў.

Словам, ёсць яшчэ да чаго прыкласці рукі аматарам прыроды. Плёну ім.

**Б. ПЯРКОЎСКІ,**
супрацоўнік Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па ахове прыроды.

# І ЗАСПЯВАЕ ГУСЛЯР...



Работы мазырскага мастака Мікалая Пушкара добра вядомы ўсім. Пацешныя маленькія чалавечкі, па майстэрску вылепленыя ім з простай гліны, выклікаюць вялікую зацікаўленасць у наведвальнікаў рэспубліканскіх мастацкіх выставак. Зараз на мазырскай фабрыцы мастацкіх вырабаў пачынаюць масавы выпуск сувеніраў з керамікі. Першай прадукцыяй новага цэха будуць скульптуркі М. Пушкара.

На здымку, які зрабіў фотакарэспандэнт БЕЛТА Ч. Мезін, — аддзелачніца А. Бялюк расфарбоўвае статуэтку «Гусляр».

# «БЕЛАРУСКІ СУВЕНІР»

Такую назву атрымаў эстрадны калектыў Белдзяржфілармоніі, створаны на базе старога ансамбля «Лявоніха».

Памянялася не толькі назва, але і рэпертуар, у калектыў уліліся новыя выканаўцы. Сярод іх інструментальны ансамбль «Дыксіленд», эстрадныя артысты — вядучыя праграмы Ганна Рыжкова, вакаліст Уладзімір Зімі́раў і іншыя.

Сваё «баявое хрышчэнне» новы калектыў атрымае ў гарадах Расійскай Федэрацыі, куды ён выехаў у двухмесячную гастрольную паездку. Беларускія эстрадныя песні і танцы пачуюць і пабачаць жыхары Масквы і Разані, Ульянаўска і Казані, Пензы і Тамбова, Саратава і Куйбышава, Волгаграда і Астрахані.

Асаблівa адказнымі будуць выступленні ансамбля ў месяцах, звязаных з жыццём і дзейнасцю У. І. Леніна. Новая праграма будзе для жыхароў многіх гарадоў Расійскай Федэрацыі сапраўдным беларускім сувенірам.

За час гастрольнай паездкі беларускія майстры дадуць больш 60 канцэртаў, на якіх пабываюць тысячы аматараў радаснага жанру.

# ГОРКАЯ СТРАТА



Трагічна загінуў Леанід Якубовіч... Ён працаваў на Салігорскім камбінаце. Хадзіў на працу з роднай вёскі Радкава, што ў паўгадзіны хадзьбы ад камбіната і дзе ён жыў са старой маці. На гэты раз ён выйшаў на працу раніцай, бо заступаў на першую змену, спусціўся з клеццю ў шахту — і там здарылася бяда. На паверхню ён не вярнуўся.

Усе мы, хто ведаў Лёню Якубовіча, з вострым болем сустрэлі сумную вестку. Лёня быў таленавіты паэт мы ўскладалі на яго вялікую надзею. І падставу для такой надзеі давалі не толькі яго вершы, але яшчэ і тое, як ён жыў, якім ён быў у сваім стаўленні да жыцця, да працы, да паэзіі. Стаўленне гэтае было вельмі сур'ёзным, сумленным, паважлівым. Слаўны, светлы ён быў чалавек — Лёня Якубовіч! Цэласная, здаровая натура... Такім ён быў у жыцці, такім ён быў і ў сваіх лепшых вершах.

Леаніда Якубовіча запрашалі на семінары творчай моладзі. Там ён пазнаёміўся і пасябраваў з многімі маладымі паэтамі, сваімі равеснікамі, яны пасябравалі з ім. І мы ведаем, як Лёня ўмеў сябраваць, як чула адносіўся да сваіх таварышаў, як умеў цаніць сваю з імі дружбу — творчую і чалавечую.

Леанід пісаў не шмат. Для гэтага былі прычыны. Па-першае, ён быў вельмі патрабавальны да сябе, і вершы даваліся яму, відаць, нялёгка. Па-другое, было вельмі мала часу. Бо Лёня працаваў, вучыўся завочна на філалагічным факультэце універсітэта, прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, памагаў дома маці. Але тое, што ён пісаў, было ўсё больш дасканалым, спелым. Мінулай зімой ён змог, у час адпачынку, паехаць у Каралішчавічы, у Дом творчасці. Там ён пісаў вершы. Паказваў нам іх. Вершы нас парадавалі. Яны былі надрукаваны нядаўна ў часопісе «Маладосць».

Лёня падумваў аб сваёй першай кнізе. Спадзяёмся, што кніга яго, хоць і невялічкая, будзе выдадзена і дойдзе да чытача. І мы тады зможам яшчэ раз пераканацца, што ў асобе Леаніда Якубовіча страцілі паэта, які сказаў бы ў літаратуры сваё, новае важкае слова.

Горкая, непапраўная страта!..

**Мікола АЎРАМЧЫК, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Ніл ГІЛЕВІЧ, Еўдакія ЛОСЬ, Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

## Паэтычная ПАВЕРКА



**Аляксей ЗАРЫЦКІ**

### ШТО ТРЭБА МАЙСТРУ?

Сэрца майстра ўсім адкрыта,
Можа кожны кратаць рукой.
Майстру трэба Маргарыта,
Майстру трэба спакой.

Сэрца майстра прагне бою,
Рвецца ў гушчу жудасных сеч.
Майстру трэба песціць зброю,
Майстру трэба меч.

Сэрца майстра зоркай з неба
Ўсю Зямлю агледзіць як след.
Майстру неба з Зямлёю трэба,
Ды ў прыдачу сусвет.

### ПРА НЕЗЫЧЛІЎЦАЎ

Я меў незычліўцаў зацятых заўсёды
І зараз напэўна ці мала іх маю.
Але не сумую я з гэтай нагоды,
Працую сабе,
Не шманаю.

Хай будуць, як камень тачыльны, такія
Упартыя злоснікі.
Мару аб цудзе!
На чым жа адвострываць буду радкі я,
Калі асялкоў пад рукою не будзе?

### БІЯГРАФІЯ

Я элін.
Я наіўнай повен веры,
Што Млечны шлях не зорная рака,
А той струмень загуслы малака,
Што вырваўся з грудзей багіні Геры.

Я славянін з паснулай даўніны,
І каб вядзьмар употай не сурочыў,
Малюся ясным зорам, бо яны
Маіх багоў усемагутных вочы.

Я варажбіт-звяздар.
Сачу я шмат гадоў
За рухам зор, не ведаючы стомы.
Я ўведаў лёс цароў і каралёў,
Ды толькі свой дасюль мне невядомы.

Я астраном.
Ва ўладзе прагных мар
Я аблятаю ў думках тыя далі,
Дзе вечнасць разграбае зорны жар
І ўе галактык зыркія спіралі.

Я касманаўт.
Хачу я зноў і зноў
На Млечны шлях дзівіцца і дзівіцца:
Здаецца мне—
То зорны пыл клубіцца
Услед за крыламі маіх сыноў.

### ЗНОЎ ПРА ЛЮБОЎ

Там, дзе канец усім маім дарогам,
Чарнее ў вечнай цішыні парог,
Як апынуся я за тым парогам,
Дык мне назад не будзе ўжо дарог.

Не баязлівец я і не імкнуся
Фатальнае пытанне прытупіць,
Ды часам і падумаць я баюся,
Што мушу той парог пераступіць.

Але калі б я толькі ведаў пэўна,
Што там, любоў, сустрэнуся з табой,
Ізноў пачую голас твой напеўны,
Ізноў адчую лёгкі подых твой,
Тады б таму парогу не спалохаць
Мяне ніколі.
І ў халодны змрок,
У незваротнасць тую я самохаць
Зрабіў бы крок.

### ТАТАРСКІ ПАЛОН

Нашы продкі крутых не баяліся сеч,
Варта толькі было ім пачуць небяспеку,
Як яны за адточаны браліся меч.
Так ужо ў нас вялося спрадвеку.

На мой край у паход выйшаў калісь Кайдан
Па загаду Батыя з вялізнай ардою.
Ды на мінскіх пагорках быў разбіты той хан,
Там, дзе Нёмна выток,
Налажыў галавою.

Хоць даўно ўжо забыты няпрошаны госць:
Сем стагоддзяў з тых дзён
Адгайдана-адгойдана,
А на месцы той бітвы
Цяпер яшчэ ёсць
Гарадок,
Які зваўся нядаўна
Койданава!

За Кайданам другі быў разгромлены хан.
Той пад Пінскам з ардою сваёй пахаваны.
Там,
Дзе ханскае цела раздзёўбваў груган,
І дагэтуль пасёлак стаіць
Целяханы.

Доўга трубам трывогу прыйшлося трубіць,
Борздым коням храпці ў ашалелай пагоні:
Лепш у бітве няшчаднай засечаным быць,
Чым з няславай гібець у татарскім палоне...
Адгуло гэта ўсё і ў мінуўшчыне тоне.

Мы з татарамі злучаны доляй адной,
З намі дзеляць і шчасце яны і трывогу.
Толькі што ты зрабіла татарка са мной?
Басурманка мая, адзначай перамогу.

І не трэба табе ні аркан, ні булат,
Ні арда незлічоная, каб запалохаць.
Загартаваны ў бітвах, бывалы салдат,
У палон твой, татарка, іду я самохаць.

У палон тваіх карых татарскіх вачэй
І высокай душы я нястрымна імкнуся.
Пераможніца, што ты жадаеш яшчэ?
Здаўся ж я і на міласць тваю спадзяюся.

АКЦЁРЫ і РОЛІ

# ВЕЛІЧ І ЎБОГАСЦЬ ФРОЛА ПРЫБЫТКОВА

**НАРОДНЫ АРТЫСТ СССР Л. РАХЛЕНКА Ў СПЕКТАКЛІ «АПОШНЯЯ АХВЯРА» У АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ Я. КУПАЛЫ**



СКЛАЎШЫ РУКІ на жываце, Фрол Фядулыч любуецца Юліяй, як карцінай у музеі. Ён нават як бы просіць прабачэння за гэты свой спакой перад жаночым хараством. Спачатку ён, праўда, трымае сябе нейкім дамскім лісліўцам старасвецкага складу, але ўсё гэта — надакучлівая ігра. Ён лоўка стылізуе гутарку пад купецкае «галантарэйнае» абыходжанне, не ўтойваючы, што такі стыль яму самому смешны. Рукі яго то пагладжваюць край стала, то пастукваюць па ім, то вяртаюцца на жывот, нібы шукаючы апоры, і ўсё ж у яго манерах ёсць сіла, якая з першага погляду выклікае павагу. Вочы яго надакучліва, але ўважліва назіраюць за Юліяй, і чым халадней, чым відавочней яна ўхіляецца ад яго паслуг, тым з большай сімпатыяй і цікавасцю ён назірае за ёю.

Ён прапануе Юліі аддаць усё багацце пад яго пільны кантроль, бо інакш яе непазбежна давядуць да галечы і гора розныя ашуканцы. Манера яго пры гэтым усё тая ж — манера добрага патрыярхальнага дзядзюхны. Аднак Л. Рахленка нейкім чынам пераконвае, што паводзіны Фрола Фядулыча прадыктаваны душэўнай чуласцю, далікатнасцю, імкненнем дапамагчы, аблегчыць Юліі гэтую непрыемную, але (з яго погляду) патрэбную дзелавую размову.

Катэгарычнасць яе адмовы ад дапамогі не здзіўляе Фрола Фядулыча. Але ён не можа, не хоча хаваць сваёй чалавечай абразы, што ў яго бескарыслівай спагадзе яна западозрыла «паляўнічую хітрасць» і «мужчынскі інтэрас». Заўсёды карэктны, ён становіцца яшчэ больш карэктным, нават сухім. Гордасць і ганарлівасць, самастойнасць і маральная патрабавальнасць, нават наравістасць і пераборлівасць Юліі глыбока прывабны яму і яшчэ больш узмацняюць яго павагу да яе.

Ужо развітаўшыся, ён абарочваецца: «Росі глядзелі?.. Добры акцёр-с. Яно даволі для нас незразумела, а цікава пабачыць-с». Дзівосна сказана. Сумнявацца нельга: перад намі не аматар, а знаўца і прыхільнік мастацтва. Галоўнае ж, што гаворыць пра Росі ён, безумоўна, сам сабе: гутарка з Юліяй адбылася не надта прыемная, вось ён і дае сваёй душы ўцеху — успамінае аб вялікім мастацтве.

Што ён можа быць і іншым, відаць са сцэн з Глафірай, пляменнікам Лаўрам Міронычам і яго дачкою Ірынай. Рахленка раскрывае нам Прыбыткова ў яго паўсядзённым жыцці. Адценняў і фарбаў тут вялікае мноства. Халодная іранічная пагарда і разважлівая паблажлівасць, маральная грэблівасць і гатоўнасць дасягнуць мэты любой цаной, здольнасць спакойна выкарыстоўваць слабасці людзей і ўмельства не шкадаваць дрэнь чалавечую, дзівоснае ўменне валодаць сабой і пад маскаю памяркоўнасці і спагады хаваць пагарду да людзей, але адначасова і нежаданне хаваць, народжанае шчырай гаркотай ад таго, што ты, каго ён бачыць, — самазадаволеная «дрыжачая пачвара». У яго жорсткасці ёсць сваё ўнутранае абгрунтаванне: Лаўр і іншыя сапраўды агідныя і нікчэмныя людзі, а галоўнае — ён можа выратаваць Юлію ад ашуканцаў і авантурыстаў.

«Грэх і сорамна, — як казаў ён у першай сцэне, — не ахаваць, не засцерагчы Юлію ад прыніжэння і гора». У яго рашэнні ўмяшацца і паскорыць непазбежны канец «рамана» паміж Дульчыным і Юліяй нічога няма ад пачуцця раздуранага самца. Тут зусім іншае: чым брудней і паскудней жыццё і людзі, якіх ён бачыць вакол сябе, тым больш жаданая і прыемная роля (нават няпрошанага) заступніка. Ён бескарысліва стараецца дапамагчы Юліі, бо ўгадвае ў ёй чалавека лепшага і, галоўнае, іншага, чым усе тыя, каго ведае. І вось яму дакладваюць аб яе нечаканым візіце... У яго постаці незвычайнае нервовае напружанне.

З першых слоў ён папярэджвае Юлію, што згодзен зрабіць ёй любую паслугу, але грошай не дасць. І на кожны чарговы «тур» яе просьбаў гэтак жа прама і непахісна паўтарае сваё безумоўнае «не». Ён не куражыцца і не цешыць сваё самалюбства: ён робіць усё, каб не абразіць Юлію, каб не даць ёй самой прынізіць сябе. Толькі яму ўсё цяжэй стрымаць расчараванне і ледзь не пагарду да гэтай прыгожай жанчыны.

А калі, няўмела разыгрываючы фрывольнасць і гатоўнасць на ўсё, яна садзіцца да яго на калені, — на твары Фрола Фядулыча трывога і шчыры жах. У рэзкасці тона і слоў, калі ён сароміць яе, — глыбокае расчараванне, ну, і, канечне, магчымасць «адыграцца»: ён прымушае Юлію заплаціць і за хвіліны жаху, і за гора сваё.

Калі Юлія падае перад ім на калені, Фрол Фядулыч стаіць да яе спіной. Ён паварочваецца і ўзмахвае рукамі, нібы спрабуючы на адлегласці падняць яе. Потым кідаецца да яе і асцярожна, але з сілай, нечаканай у гэтым грузным старым чалавеку, адрывае яе ад падлогі. Некалькі рэплік не акрэслены па інтанацыі — ён стараецца суняць хваляванне і зразумець, што ж адбылося. І толькі калі Юлія кажа, што патрэбны ёй усяго нейкія (на яго погляд, мізэрныя) шэсць тысяч, прарываецца ўся яго ўзрушанасць. Ён вымаўляе: «І з-за гэтай дробязі вы сябе прыніжаеце?» — з такой стогнучай расцяжкай, што адчуваеш адразу і яго спагаду, моц яго спачування, захапленне і боль яго, бязмежнасць яго здзіўлення перад самаахвярнасцю Юліі. Тое, што толькі хвіліну назад здавалася яму самавыкрыццём нікчэмнай істоты, раскрываецца цяпер як веліч, як подзвіг.

У наступны раз Фрол Фядулыч сустракаецца з Юліяй, калі яго план выратаваць яе ад Дульчына ўжо здзейснены і калі нават сама яна ведае аб хуткім шлюбе яе любоўніка з Ірынай Прыбытковай. Фрол Фядулыч заняты адным — жаданнем палегчыць ёй пакутлівыя хвіліны. У ім гавораць глыбокае спачуванне, вытанчаная чуласць душы. Таму якраз ён і прымушае сябе быць бязлітасным з ёю. Няма больш цяжкай акцёрскай задачы, чым выявіць і перадаць жорсткасць у імя дабра, бязлітаснасць у чалавечнасці, — Рахленка сапраўды «заражае» нас гэтым узвышаным пачуццём.

У апошні раз мы бачым яго ўжо ў ролі мужа Юліі. Ён — увесь увага, пяшчота, пашана, ён мог з усёй праўдай сцвярджаць, калі б не саромеўся гучных слоў: «Я пыл ля ног тваіх» і «цалую сляды твае...» Ён не гаворыць гэтых слоў, ён разумее, што Юлія няшчасная. Але, нягледзячы на гэта, так і ззяе ўрачыстасцю, радасцю ўладара жыцця. Ён не становіцца непрыемным, але здзяйсняецца тое, што так зрэдку адбываецца ў сённяшнім тэатры — раптам пранізвае сэрца думка: які жудасны свет адзіноты і вечнай тугі душэўнай, у якім нават такі чалавек застаецца ўласнікам і, папаткаўшы ўрэшце высокае, чалавечае, імкнецца атрымаць яго як тавар, найвышэйшай каштоўнасці, але ўсё ж тавар.

**У. РУДАЎ, К. ХАДЗЕЕЎ.**



# АКРЫЛЕНЫ ПЕСНЯМІ

*МІХАЛУ ЗАБЭЙДУ-СУМІЦКАМУ — 70 ГАДОЎ*

Рыгор ШЫРМА,
народны артыст СССР

На пачатку 1936 года мне давялося слухаць у Вільні радыёперадачу з Варшавы. Быў канцэрт «разрыўковы». І вось дыктар аб'яўляе: «А цяпер паслухайце дзве палескія песні — «Зялёны дубочак» і «Чаму мне не пець»... Мяне не здзівіла, чаму гэтыя песні раптам сталі палескімі: дыктару не павярнуўся язык сказаць слова «беларускія», бо гэтае слова было забаронена. Выкананне песень было высокамастацкае, інтэрпрэтацыя здаровая, свежая, прыгожая. Гэта была незвычайная з'ява для нас у тагачасных умовах. Я адразу напісаў пісьмо ў Варшаву і хутка атрымаў адказ ад М. Забэйды. Ён прасіў прыслаць беларускія песні. Я неадкладна сабраў і выслаў сольныя спевы беларускіх народных і арыгінальных песень кампазітараў Галкоўскага і Грачанінава, а таксама атрыманыя праз «зялёную граніцу» сольныя песні і рамансы Чуркіна, Аладава, Туранкова, Анцава і іншых кампазітараў.

Так пачалося маё знаёмства са спеваком, які далучыўся сваімі песнямі да перадавой часткі студэнцкай моладзі і прагрэсіўных беларускіх арганізацый.

Яму былі знаёмы ўсе ўрачыстасці народнага жыцця, якім спадарожнічае наша цудоўная песня, бо ён і сам маладым хлапчуком выліваў свае настроі на гэтых урачыстасцях як вясковы скрыпач-музыка.

Вёска Шэйпякі каля Ружанаў, Косаўскага павету, дзе ён нарадзіўся ў 1900 годзе, была першай школай народнага мастацтва для Забэйды. Скончыўшы пачатковую школу, ён паступае ў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Ваенная хваля ў 1915 годзе змыла і выкінула з родных берагоў сялянскую масу, разам з якой вынесла і нашага песняра на Далёкі Усход. За час так званага бежанства Забэйда скончыў настаўніцкую семінарыю, настаўніцкі інстытут, а ў Харбіне універсітэт, працуючы адначасова выкладчыкам у сярэдняй гандлёвай школе («камерчаскае вучылішча»).

Грунтоўныя заняткі музыкай і спевамі пачаліся ў Харбіне. Яго прафесарамі былі партнёрка Шаляпіна Юлія Плотніцкая, Метэр і Тамашынская. Тут адбываліся першыя яго выступленні як артыста Харбінскай оперы ў ролях Ленскага ў «Яўгеніі Анегіне» Чайкоўскага, князя ў «Русалцы» Даргамыжскага, Леля ў «Снягурачцы» Рымскага-Корсакава. У тагачаснай прэсе паявіліся галасы крытыкі, якія ацэньвалі Суміцкага як вялікага спевака-мастака. Так, кітайская газета «Гунбао» пісала: «Чулы музычны спявак Забэйда імкнецца асэнсаваць ролю ў самых дробных дэталях і па магчымасці пераўвасабляцца пры выкананні ролі. Артыст з часам будзе пажынаць лаўры на гэтай зайздроснай ніве». Думка грунтоўная і аказалася прарочай.

У 1932 годзе ён выязджае ў Італію, у Мілан, удасканальваць свой голас пад кіраўніцтвам выдатнага прафесара спеваў Фернанда Карпі. Тут, дзякуючы сваім здольнасцям, Забэйда выбіваецца на паверхню артыстычнага жыцця — яго па рэкамендацыі прафесара Карпі запрашаюць у Міланскую «Ла Скала». Афіцыйны орган Акадэміі сучаснай музыкі «Giornale debarte» раўняе Забэйду-Суміцкага з тэнарамі такой вялікай славы, як Ціта Скіпа і Леанід Собінаў. Італьянская крытыка трапна адзначае адзін з выдатных бакоў выканання Забэйды — яго інтэрпрэтацыю, іменна тое, што ён пяе не толькі голасам, але і душой. Музычны аглядальнік «Corriere di Savona» пісаў: «Тэнар Міхал Забэйда-Суміцкі і гэтым разам пацвердзіў здабытак апошніх сваіх артыстычных падарожжаў. Ён выяўляе ўражлівую душу летуценнага паэта, гэтак характэрную для славянаў. Ягоны голас робіць ураджанне дасканалага інструменту, які захапляе і чаруе слухачоў».

Праз 20 гадоў побыту за граніцай ён не страціў, а захаваў у сэрцы вялікую любоў да роднага краю. На так званых «крэсах усходніх» жыла яго старэнькая маці. Праз яе ён усцяж падтрымліваў лучнасць з жывой беларускай стыхіяй. Пасля амаль чатырохгадовага побыту ў Італіі ў 1935 годзе вярнуўся на Бацькаўшчыну. На яго выступленні ў канцэртах звярнулі ўвагу польскія музычныя колы, і ён быў запрошаны ў Познанскую оперу, дзе выступаў салістам у операх — «Галька» Манюшкі, «Рыгалета» Вердзі, «Севільскі цырульнік» Расіні, «Фауст» Гуно, «Выкраданне з сераля» Моцарта, «Юлій Цэзар» Гендэля, «Яўгеній Анегін» Чайкоўскага. Калі скончыўся кантракт, ён пакінуў оперу і перайшоў на канцэртную эстраду. Бліжэй я пазнаёміўся з ім у Вільні падчас нашых супольных канцэртаў з хорам. Гэта быў перыяд росквіту яго таленту спевака. Таксама і «гутарковая мова» была ў яго пекная, мілагучна спеўная, сапраўды беларуская. Нас здзіўляла, як гэта ён, вандруючы дваццаць гадоў па Маньчжурыі, Італіі, Заходняй Еўропе і Польшчы, вынасіў пад сэрцам і захаваў чыстымі такія скарбы, як родная песня і родная мова

Першае выступленне Забэйды-Суміцкага ў Вільні адбылося 13 сакавіка 1936 года. Спачатку спаткалі спевака толькі з цікавасцю, як нейкую навінку. Было многа салістаў, якія спявалі беларускія песні. Усе яны не рабілі сур'ёзнага ўражання. Ніхто не знаў новага спевака, здаецца, не было надстаў чакаць нечага значнага і цяпер.

Але пасля першай песні зала ўздрыганулася ад воплескаў. І далей канца ім не было. Многа давялося спяваць звыш праграмы. Слухачамі былі беларуская інтэлігенцыя, віленскія рабочыя, сяляне, а з-над самае столі яснеў густы шэраг ільняных галоў вясковай моладзі, вучняў і студэнтаў. Прымалі мастака і развіталіся з ім бурнымі воплескамі і кветкамі. А ў канцы вынеслі з эстрады на руках.

Вось што запісаў на другі дзень пасля канцэрта Максім Танк:

«...І не ведаю, чаму, пачуўшы народную песню, не толькі заслухоўваюся, але мне хочацца глянуць вачыма ў яе.

Шмат я чуў, як пялі народныя песні! Ледзь не заўсёды яны неяк іначай гучалі, як там, каля сваіх крыштальных вытокаў. У выкананні адных яны гублялі сваю прастату, другія — пелі іх чужымі вуснамі, і здавалася, што за голасам недзе яшчэ б'ецца незразумелае, дзіўнае сэрца гэтых песень, якое ці і патрапіць хто адчуць.

Зусім іначай пяяў М. Забэйда-Суміцкі.

З першых слоў ён нябачнымі пальцамі адчування ўзяў гэта сэрца песні, паклаў яго на асцярожныя далоні дзіўнага голасу і, абвеяўшы чарамі, панёс яго, здаецца, на разнастайныя дарогі, між саламяных стрэх, між каласоў, затопленых у сонцы, раскалыханых ветрам. І ці ж можна было не пачуць іх, не пайсці за песняром?

Зала доўга кацілася да эстрады хваляй воплескаў, адступала, каб зноў вярнуцца, гатовая змыць сваім вірам і эстраду, і песняра.

Змоўклі. Пасля ўсяго, мне здалося, у кожнага чагось не хапала без чаго перш людзі стараліся жыць спакойна, быццам не заўважаючы, і нехта ім прыпомніў, што так не можна жыць далей, як жылі. . Часам песні патрапяць так сказаць!..»

Стала жывучы ў Варшаве, Забэйда-Суміцкі часта выступаў па польскім радыё, часта выязджаў з канцэртамі ў правінцыю і за граніцу. Прычым на кожным канцэрце разам з ім выступае і беларуская песня, выступае ў поўным бляску і красе і карыстаецца каласальным поспехам побач з шэдэўрамі музыкі еўрапейскай.

(Заканчэнне на 14-й стар.)

*ТЭАТР*

# КАЛІ АЦІХАЮЦЬ АПЛАДЫСМЕНТЫ...

**«МАРЫЯ СЦЮАРТ» У РУСКІМ ТЭАТРЫ БССР ІМЯ М. ГОРКАГА**

Ніхто,
Апалы баючыся, не пасмее
Сказаць хоць слова за яе.
(«Марыя Сцюарт» акт. 2).

АМАЛЬ два стагоддзі не сыходзіць са сцэны гэта найярчэйшая ў драматургіі Шылера трагедыя. Яна праславіла многіх выканаўцаў роляў Елізаветы і Марыі Сцюарт. А колькі актрыс мараць аб іх! І, вядома, пастаноўка такой п'есы—з'ява ў тэатры. Яна стала падзеяй і ў жыцці тэатральнага Мінска сёлетняга сезона.

Пры захаванні рэальнага гістарычнага зместу і духу адлюстраванай эпохі—Англія часоў каралевы Елізаветы—Шылер, скарыстаўшы па законах драмы фактагічны матэрыял (палітычная барацьба англійскай і шатландскай каралеў, рэфармацыі і контррэфармацыі), засяродзіў сваю ўвагу на псіхалагічных і этычных праблемах. Гэта мастацкая трактоўка гісторыі асаблівa дарагая кожнаму рэжысёру, які бярэцца за пастаноўку п'есы, бо адкрываюцца магчымасці пошукаў новага павароту ў раскрыцці складаных вобразаў і пафасу твора, што ідзе карэннямі ў глыб вякоў. Вялікі савецкі педагог і рэжысёр Аляксей Дзікі часта гаварыў сваім вучням: «Перш чым іграць ролю, адкажы на пытанне: чым здзіўляць будзеш?» Паводле А. Дзікага, «зместам» твора сцэнічнага мастацтва можа быць толькі нешта новае, нешта яшчэ не сказанае, нешта ўпершыню адкрытае гледачу. Калі ён не знаходзіў у драматургічным матэрыяле гэтага новага, ён не лічыў сябе гатовым ставіць спектакль. Адсюль гэта яго патрабаванне — «Чым здзіўляць будзеш?»,—гэта значыць, чым прымусіш гледачоў па-новаму ўспрымаць тое, што здавалася ўжо вядомым, убачыць тое, чаго яны не заўважалі, і тым самым выклікаць у іх роздум аб жыцці, аб людзях.

Якая ж рэжысёрская інтэрпрэтацыя шылераўскай трагедыі на мінскай сцэне? Адразу адзначым мастацкую мэтанакіраванасць пастановачнай задумы Ф. Шэйна: раскрыць шылераўскі намер сказаць бязлітасную праўду аб тых, хто двудушна, «абараняючы грамадскі парадак», зневажае ісціну, хто сляпую жорсткасць і дарэмна пралітую кроў прыкрывае напышлівымі фразамі пра інтарэсы каралеўства, чый шлях да ўлады паліты крывёю, хто не спыняецца і тады, калі ведае, што гісторыя абвінаваціць іх у антычалавечнасці. Толькі дабіраючыся да чалавечага ў чалавеку, гістарычны твор мастацтва можа ўплываць на маральнае пачуццё людзей. Такія, абгрунтаваныя асацыяцыі, відаць, адрасаваў пастаноўшчык тым, хто будзе «чытаць» яго спектакль. І яны ўгадваліся б у спектаклі, выразна і хвалююча прагучалі, калі б рэжысёр паспядоўна вёў за сваёй задумай акцёраў і калі б усе шылераўскія характэры па-сапраўднаму ажылі на сцэне.

Тэатр, згодна з задумай Фёдара Шэйна, разгортвае перад гледачом як бы фантасмагорыю зняваг ісціны ва ўгоду сіле. І вобразнае ўвасабленне гэтай думкі—у цяжкім шчыце, які вынесены на авансцэну і засланяе сабой усё. Толькі зразумеўшы гэты сімвал, бачыш агідную карціну тых па-змяінаму заблытаных страсцей, якія даў Шылер. Змрочныя, цяжкія турэмныя скляпенні згрувасціліся, жыўцом душаць зняволеную Марыю Сцюарт. Слаба, праз краты цямніцы, прабіваецца сонечны прамень. Нават яно—сонца—халадзее ў гэтым панылым склепе. Гэта шэра-чорная, металічная каляровая гама застаецца асноўнай у спектаклі. Змрок турэмнага каземата пераходзіць, як пануючая фарба, нават у апартаменты каралевы Елізаветы, здавалася б, акружанай дагодлівымі сябрамі. Аскетычныя канструкцыі, аб'ёмныя формы дэкарацый, змрочны суровы колер — усё гэта стварае напружаную атмасферу, а металічны бляск узмацняе яе і адразу ўводзіць у спектакль трагічныя ноты. На такую атмасферу працуе і прадуманая да дэталяў выразная музыка, напісаная Алегам Янчанкам: яна часта дыктуе настрой сцэны. Зразумелая і яркая метафарычнасць мовы мастака Уладзіміра Сцяпанава — адразу робіць ясным сэнс яго вобразнай думкі: «Англія—турма». Такі ў яго ўяўленні вобраз змрочнай сілы, што душыць усё трапяткое і жывое.

Кідкае, экспрэсіўнае рашэнне першай сцэны (Фотрынгей) — як бы прадказвае падзеі і характары незвычайныя, драматычныя, жахлівыя. Але ўмоўнасць такой выразнай алегорыі павінна ўраўнаважвацца рэальнасцю акцёрскай ігры, тым унутрана-дынамічным нервам, які ажыўляе жывапіснае палатно. Калі прачарціць унутраную лінію паводзін усіх дзеючых асоб, становіцца зразумелым, што рухаючай спружынай дзеяння з'яўляецца смяротны паядынак герояў. Паядынак паміж каралевай шатландскай і каралевай англійскай—складаная барацьба палітычных і рэлігійных сіл, даўняя, затоеная варожасць дзвюх жанчын, варожасць, якую ўжо не схаваць. Паядынак канцлера Берлі, што ўвасабляе сабой крывадушна-ханжаскія метады палітычнай барацьбы, да якіх прыбягаў пратэстантызм для сцвярджэння сваёй перамогі ў Англіі, з гуманістам Шрусберы — таксама водгулле той варожасці. Паядынак двух царадворцаў — Берлі і Лейстэра, двух эгаістычных прэтэндэнтаў на першую пасля каралевы пасаду ў дзяржаве. Паядынак Морцімера — фігуры рамантычнай, які гатовы цаной свайго жыцця выратаваць Марыю, і Лейстэра—фарысея і здрадніка. Дуэль Марыі і Берлі, Берлі і Полета, Елізаветы і Дэвісана, і нарэшце, Елізаветы з самой сабой, жахлівы, захапляючы паядынак. Усё драматычнае дзеянне па вельмі трапным вызначэнні самога Шылера ўціснута «ў вузкі карсаж». Драматург зрабіў яго насычаным, лаканічным, поўным напружання і тых вострых момантаў, у якіх так ярка выяўляецца чалавечая асоба. Якая шчаслівая магчымасць для тонкіх акцёрскіх роспісаў! А ў спектаклі?

Прэтэнзіі ў першую чаргу адрасуеш двум асноўным выканаўцам—А. Клімавай і І. Лакштанавай. Праўда, творчая смеласць І. Лакштанавай у гэтым спектаклі заслугоўвае павагі: актрыса ўзялася за ролю Елізаветы, якая нібыта не ў яе творчай індывідуальнасці, і паказала фігуру моцную, прадэманстравала ломана-рэзкі, нават гратэскавы малюнак вобраза. А ў цікава намечаным маналогу Елізаветы «...Калі ж свабоднай буду на прастоле» яна артыстычна выкрывае сапраўдны сэнс учынкаў гераіні. У арсенале І. Лакштанавай нямала фарбаў—яе Елізавета гаворыць сухім, пазбаўленым колеру голасам, у яе хада фігляра, а позірк ззяе насцярожанай падазронасцю. І ўсё гэта ацэньваеш як добрасумленную распрацоўку вобраза. Але мастацтва перажывання ніколі не заменіць мастацтвам прадстаўлення! Ёсць прадуманая да драбніц знешняя форма і мала ўнутранай дыялектыкі душы. Актрыса халаднавата дэманструе «царскасць» каралевы. Дзе складаны псіхалагічны кірунак вялікай ролі? Елізавета ж не толькі змрочная фігура. Яна пажаночы дапытлівы аналітык, адукаваная асоба, мудры палітык і... да смешнага какетлівая, хворая ўсведамленнем сваёй жаночай непаўнацэннасці. На сцэне ж пераважае аднастайная зададзенасць. Далёка не заўсёды выверaны танальнасці ролі і даведзены да паслядоўнай унутранай лініі паводзін заўсёды пераменлівыя ў Елізаветы «зігзагі» пачуццяў і крокаў. Чамусьці ў спектаклі не прагучаў істотны ў Шылера матыў трагедыі, выказаны ім у афарыстычнай форме: «Суд большасці—яшчэ не голас праўды, Брытанія—не свет, і твой парламент не выкажа прысуду чалавецтва». Гэта звернута да Елізаветы і носіць не прыватны характар, а больш абагульнены. На сцэне думка губляецца і не затрымлівае ўвагу залы.

Неспакойнае хараство, бляск высокай паэзіі, вытанчана-рафінаваныя адценні хацелася ўбачыць у вобразе Марыі Сцюарт. Яе жыццё «без адпачынку, без паўз» празмерна насычанае і інтэнсіўнае. Яна вядзе бітву за жыццё, напружваючы слабеючыя сілы. Паэзія гэтай ролі—у нязломнасці духу гераіні, грацыёзнасці яе розуму, у зацятай чалавечай волі, у высокім духу асобы, якой не чужыя зямныя страсці. Чакалася, што вось такой мы і пазнаем Марыю ў выкананні гэтай эмацыянальнай і шматграннай актрысы. Звычайна вобразы А. Клімавай адухоўлены шчырасцю і праўдай, яны створаны гарачым сэрцам, афарбаваны пяшчотнымі тонамі акварэлі. Але, як ні шкада, актрыса, у якой, здавалася б, ёсць усе дадзеныя для яркага ўвасаблення вобраза Марыі Сцюарт, не выявіла ўсіх сваіх магчымасцей у стварэнні цэльнага характару. Можа прычына таіцца ў тым, што яна паддалася спакусам меладраматычнай чуллівасці, якія ёсць у самой сітуацыі п'есы? Вядома, што сам Шылер папярэджваў тэатры, каб з гераіні не рабілі «анёла». У Мінску ж часам да гэтага імкнуцца. Скажам, славутая сцэна сустрэчы каралеў.

Маналог свой А. Клімава вымаўляе прыгожа, горача, яна прымае позы, якія павінны падкрэсліць веліч нават і прыніжанай каралевы. А сэрца актрысы, як мне здалося, маўчыць у гэтай сцэне... Няёмка апускаецца на калені перад Елізаветай Марыя — Клімава. І амаль адчуваеш фізічную скаванасць актрысы, як перашкаджае ёй адзенне. І няма тут у Марыі велічы каралевы. А ў Шылера і ў гэты пакутлівы для яе час Сцюарт прыніжаная, але не растаптаная, ганарыстая і прыгожая каралева. Іменна гэта падмеціла Елізавета, якую не ашуквае знешняя пакорлівасць Марыі, яна адчула вулкан яе пачуццяў. У А. Клімавай жа гэта—мінутная слабасць прыгожай жанчыны, пакрыўджанага «анёла».

...Апошнія хвіліны Марыя Сцюарт з блізкімі ёй людзьмі. Яна поўная рашучасці. «У маім канцы пачатак мой»,—гэты сказаны ёй афарызм сведчыць аб тым, што яна разумее сэнс сваёй «будучыні». Смерць—адзіны для яе шанец перамагчы. А Сцюарт — асоба мужная і моцная. Яна шчаслівая, што ў апошнія хвіліны яе акружаюць людзі, якія раскажуць потым праўду, як бясстрашна, як па-каралеўску глянула яна ў вочы смерці. Каралева з першага дыхання, яна яшчэ дзіцем навучылася трымацца па-каралеўску, і гэта высокае майстэрства не пакідае яе ў самыя цяжкія хвіліны. Усё прадумана і разлічана загадзя да дэталяў, нават эфектнае крывава-пунсовае плацце і доўгія таго ж колеру пальчаткі, каб кроў, якая пырсне пасля адсячэння галавы, не так рэзка «пляміла» яе адзенне.

Светліва, амаль радасна свеціцца твар: нават ворагі яе потым даносілі Елізавеце, што «словы выроку смяротнага як вестку добрую прымала» (і гэта, мы ведаем, факт гістарычны). Смерць несла ёй пазбаўленне ад дваццацігадовага зняволення. Такі лёс гістарычна вядомай асобы Марыі Сцюарт, і іменна ў сілу яркага лёсу і моцнага характару вось ужо на працягу некалькіх вякоў яна натхняе паэтаў, гісторыкаў, пісьменнікаў.

У Марыі ж А. Клімавай не адчуваецца гэтай сілы. Страсна, амаль з маленнем углядаецца яна ў твары камерыстак і амаль істэрычны вокліч — «Ідзіце, ідзіце ж!»—выдае яе страх і пакорлівасць пераможнай. Яна амаль просіць паспачуваць ёй. Такі фінал толькі ўзрадуе Елізавету...

Па высокім памосце ўзнімаецца яна на эшафот, узнімаецца ў бяссмерце, і двойчы, ледзь не падаючы абапіраецца на алебарды салдат. Няздручныя дэкарацыі? Тады тут вінаваты рэжысёр, які і на гэты раз прымусіў, як у эпізодзе «дзвюх каралеў», А. Клімаву дзейнічаць нязграбна, пераадольваючы штучную мізансцэну. Гэта азбучная ісціна: калі акцёр не «абжывае» знешняга малюнка, трэба мяняць гэты малюнак, а не «ўціскаць» у яго выканаўцу ролі.

Акцёрскі талент не збяднеў у А. Клімавай, але ён падначален дзіўнаму ў яе, заўсёды чулай да фальшу, жаданню выглядаць той Марыяй Сцюарт, якую напісаў Шылер, а не быць такой. Ці не таму эпізоды надзвычай тонка распрацаваныя (з Лейстэрам, напрыклад) чаргуюцца з адкрытым «паказам» высакароднасці і нават з дэкламацыйнымі выказваннямі? Калі зала адчувае, што артыст з усіх сіл намагаецца захапіць яе, у зале ўзнікае атмасфера насцярожанасці і, я сказала б, недаверу. Хай сабе зрэдку, але ўзнікае, а калі гэта датычыць А. Клімавай, такі настрой у зале адчуваеш вастрэй. І апладысменты, якімі актрысу ўзнагароджвае публіка, часцей адрасуюцца «вынаходлівасці» выканаўцы, якая ўсё ж мабілізуе сябе і «абжывае» складаныя мізансцэны, «саграе» дэкламацыю, арганічна рухаецца і жыве ў вобразе. Карацей кажучы, адрасуюцца выдатнаму майстэрству любімай актрысы, а не адкрыццю вобраза. Мабыць, многае ў трактоўцы ролі вызначыў Ф. Шэйн, а выканаўца прафесіянальна «прытрымліваецца» намераў рэжысёра. Прынамсі, я так зразумела яе. Даводзіцца канстатаваць, што няма ў спектаклі глыбокай, тонкай характарыстыкі Марыі Сцюарт. Выразна адчуваеш у гэтай жанчыны арытмію, перабоі пульса. І ўнутраная логіка драматургічнага вобраза больш цікавая, багацейшая за яго сцэнічнае ўвасабленне.

Хацелася б больш натхнёным, адухоўленым бачыць і Морцімера (артыст Н. Смірноў). Гэты персанаж не «фон», а важны «аб'ект» увагі Марыі і Елізаветы, тут нельга «браць крыкам», трэба жыць у ролі.

Больш дакладнымі атрымаліся на сцэне характары герояў, створаныя акцёрамі з сапраўдным псіхалагічным майстэрствам. Сцэна за сцэнай раскрывае агідную сутнасць здрадніка і палітычнага сутэнёра графа Лейстэра Р. Янкоўскі. І робіць гэта захапляюча, эмацыянальна. Дасведчаным прыдворным прадстае перад намі Берлі ў выкананні Ю. Сідарава, праўда, і трохі аднастайным. Не можа не крануць мудрасць і высакароднасць Шрусберы (Ю. Ступакоў). І трагедыю другога лёсу—трагедыю моцную і моцна сыграную—данёс да нас Э. Гарачы (Вільям Дэвісан). Можна сказаць многа цёплых слоў пра ігру А. Шах-Парон і І. Ражбы ў эпізадычных ролях карміліцы і галоўнага ахоўніка Марыі. І хіба не сведчыць гэта аб тым, што ў спектаклі часам другараднае аказваецца ярчэй раскрытым, чым галоўнае.

Відаць, адчуўшы гэта, пастаноўшчык спектакля (можа ён не «верыць» магчымасцям выканаўцы ролі Елізаветы?) «дапісаў» фінал. У аўтара Елізавета, якая дачакалася весткі аб пакаранні смерцю Марыі, разыгрывае фарс раскаяння. Вераломна здраджвае яна блізкім і застаецца адна, з цяжкасцю авалодваючы сабой пры паведамленні аб адплыцці Лейстэра ў Францыю. Глыбокі ідэйны і псіхалагічны змест укладзены Шылерам у трагедыю. І гэтыя завяршаючыя акорды сцвярджаюць толькі палітычную перамогу Елізаветы, а маральна пераможцай застаецца Марыя. Такім чынам, перамагае думка аб чалавечнасці. Нібы баючыся, што глядач чагосьці не зразумее, рэжысёр працягвае спектакль—ён праводзіць Елізавету па барвовай дарозе да трона. Хістаючыся, ідзе да яго каралева, доўга ўладкоўваецца і змрочна застывае на троне. На мой погляд, такое рашэнне фінала дэкларацыйнае і супярэчыць Шылеру!

Выклікае недаўменне і зусім адвольная інтэрпрэтацыя рэжысёрам спаткання Лейстэра і Елізаветы (цяпер у тэатрах сталі модныя сцэны «ў ложку»). Нават Шылер, які трохі «паграшыў» у п'есе супраць гісторыі, такога прыдумаць не асмеліўся. Густ мог бы стрымаць і фантазію рэжысёра...

Спектакль—сінтэз усіх творчых сіл, якія з найбольшай выразнасцю даносяць ідэю, закладзеную ў п'есе. Сілы гэтыя аказаліся ў Рускім тэатры БССР «не ў фокусе», і таму спектакль выглядае тэатральна яркім, але пазбаўленым глыбокага роздуму аб жыцці, аб чалавеку. Эфектнае відовішча з асобнымі акцёрскімі ўдачамі—ці не замала гэта для сталага і па-творчы цікавага калектыву?

**Нінэль КАСЬЯНАВА.**



У зале Белдзяржфілармоніі адбыўся вялікі канцэрт былых выхаванцаў мінскай музычнай школы № 2, якія цяпер займаюцца ў розных музычных навучальных установах краіны. Гэты канцэрт быў арганізаваны ў сувязі з 20-годдзем музычнай школы.

На здымку — выступае ансамбль цымбалістаў, былых выхаванцаў школы.

Фота М. РУБІНШТЭЙНА.

# СЛАЎКА

Мікола ГІЛЬ

АПАВЯДАННЕ



НА ПЕРОНЕ было тлумна — як заўсёды перад адыходам цягніка. Між вірлівы гаманкі натоўп я прабраўся да свайго вагона, падаў стомлена-абыякавай праваднііцы білет, падняўся па прыступках, адшукаў сваё купэ і прысеў ля акна. Сядзеў і бяздумна глядзеў на звыклую (ездзіць мне давозіцца частавата-такі) муравейную мітусню на пероне і на вакзальнай плошчы, што адкрывалася за чыгуннай рашотчатай агароджай, глядзеў і чакаў, калі тузанецца-здрыганецца вагон і паволі паплыве назад гэтая самая рашотка-агароджа, жаўтавата-белы будынак вакзала, калі раптам за вакном яшчэ болей замітусяцца людзі і будуць махаць некаму рукамі і нешта крычаць, калі ўвесь вагон на некалькі мінут напоўніцца гоманам, тлумам і смехам...

Я люблю гэтыя неспакойныя апошнія хвіліны перад ад'ездам. Часам выбіраешся ў дарогу не вельмі і ахвотна і зусім, здаецца, абыякава кідаеш на паліцу ў вагоне свой абшарпаны камандзіровачны партфель, але—ці то перадаецца табе перадад'ездная ўзрушанасць іншых, ці то проста такая ўжо натура чалавечая, што вечна прагне нечага нязведанага, — усё роўна ў апошнія хвіліны прыходзіць і да цябе гэтае ні з чым непараўнанае пачуццё — пачуццё хвалявання, суму, трывогі і чакання. Чаго — і сам не ведаеш. Але з кожным стукам вагонных колаў на стыках рэек, з кожным новым гудком паравоза на палявых ці лясных раз'ездах гэтае пачуццё чакання нечага нарастае ў табе і нарастае. І толькі пасля будзённы клопат, які выправіў цябе ў дарогу, пакрысе выцясняе тое пачуццё з тваёй душы, і ты вязеш дадому зусім звычайную чалавечую стому і шчымлівы сум па доме, па родным горадзе, па сябрах, — нават, можа, і не сум, а нейкую няпэўную радасць ад прадчування сустрэчы з усім тым, што пакінуў на нейкі тыдзень-два...

Ля майго—хваставога — вагона людзей было, чамусьці, мала: стаяла і дакурвала цыгарэты купка вайскоўцаў; даспрэчваліся аб нечым сваім двое старых — ён і яна; елі марожанае — праводзячы, відаць, бацьку: лысаватага, з тоўстым жоўтым партфелем — чынная сямейка; сын, дачка і маці; ды крыху ўбаку стаяла трое: дзяўчына і два хлапцы. Хто з іх ад'язджаў, хто каго праводзіў — цяжка было сказаць. Хлопцы былі аднаго росту, у аднолькавых стракатых тэніскаў поверх летніх светлашэрых штачоў, у карычневых, з чорнымі падпалінамі, басаножках, толькі адзін з іх быў чарнявы, з даўгаватай моднай грывай, другі—бялявы, падстрыжаны коратка пад вожыка, у акулярах. На дзяўчыне была лёгкая белая сукенка, а загарэлыя стройпыя ногі былі абуты ў белыя басаножкі-лапці. Іх я прыкмеціў яшчэ на прывакзальнай плошчы, ля газетнага кіёска, куды падышоў купіць сёе-тое «на дарогу». Можа б і не звярнуў я на іх увагі, калі б не каса, што звісала ў дзяўчыны ледзь, як кажуць, не да пят — тоўстая, русая каса: прызнацца, не дужа часта надараецца бачыць у горадзе дзяўчат з косамі. Дзяўчынкі-школьніцы, бывае, і памахваюць яшчэ тоненькімі і кароценькімі мышынымі хвосцікамі, але крыху пазней бясследна знікаюць і гэтыя мышыныя хвосцікі з капронавымі банцікамі...

Цяпер яны стаялі амаль насупраць майго акна, і я, хоць і глядзеў няўцямна, усё ж разгледзеў іх лепш. Позірк мой, вядома, больш затрымліваўся на дзяўчыне. Кідалася яна ў вочы не толькі сваёй касой, але і маладой, адкрытай прыгажосцю. У яе былі доўгія, стройныя, хоць крыху і паўнаватыя ногі, тоненькая, дужа складная фігурка, вузкія, пакатыя плечы. На даўгаватай, па-дзіцячы тонкай шыі гожа сядзела кругленькая галоўка з маленькім, але не кірпатым, а тонкім і роўным носам, з жывымі, вясёлымі вачыма, з рухомым, усмешлівым, крышачку велікаватым ротам. Над высокім круглым ілбом віліся пасмачкі зусім бялявых валасоў — пэўна, выгаралі на сонцы, бо каса была цямнейшая.

А яшчэ — дзяўчына была шчаслівая. Гэта было відно па ўсім—па тым, як яна смяялася, гаварыла, часцей звяртаючыся да бялявага, у акулярах, шчасце свяцілася ў яе жывых вачах, шчасцем поўнілася ўся яе гнуткая, рухавая, стройная пастава, і гэта надавала дзяўчыне яшчэ больш прыгажосці і вабнасці. І—я не заўважыў, як ва мне нешта зварухнулася, як прыйшла раптам, вядома ж недарэчная, зайздрасць да гэтых хлопцаў, як зусім па-хлапечы захацелася падыйсці да гэтай прыгажуні і дакрануцца рукою да яе касы — чамусьці падумалася, што тугі жмут русых валасоў будзе прыемна халодны ў гэты спякотны летні дзень, і было сорамна, ніякавата ад усяго гэтага, і нехта шаптаў мне здзекліва і кпліва: «Ах, стары валацуга, стары валацуга...»

А цягнік усё не адыходзіў, і па-ранейшаму за акном цмыгалі цыгарэты і рагаталі вайскоўцы, спрачаліся аб нечым стары са старою, елі марожанае сын, дачка і жонка лысаватага з жоўтым пузатым партфелем, стомлена-абыякава сумавала праваднііца, і па-ранейшаму смяялася-шчабятала мая прыгажуня. Што яна гаварыла, з чаго ці над чым смяялася, мне было не чутно. Зрэшты—ці не ўсё роўна? На пероне, перад ад'ездам цягніка, наўрад ці гаварылася калі што-небудзь важнае. Тое, што трэба было сказаць, сказана раней, загадзя, а тут, ля дзвярэй вагона, часцей за ўсё прамаўляюцца звычайныя, падчас зусім неабавязковыя словы развітання і пажаданняў... І ўсё ж — я апусціў акно. Яно спаўзло ўніз цяжка, са скрыпам, і ўсе трое зірнулі на мяне, але толькі на хвіліну...

— Ну, стары, засталася мінута...

Гэта сказаў чарнявы. Бялявы зірнуў на гадзіннік, праказаў:

— Так, мінута... Засталося сказаць «бывайце» і ўскочыць на падножку...

— Слаўка, навошта ж так сумна? — пакрыўджана скрывіла губкі прыгажуня. — Ты ж сам наважыўся... — Яна злавіла руку бялявага і хуценька зашчабятала: — Слухай, Слаўка, а можа — перадумаеш? У апошнюю мінуту, га? Гэта ж будзе нават здорава — у апошнюю мінуту. Урэшце,—яна зноў крыўдліва злажыла губкі: — На каго ты мяне пакідаеш? З Генкам жа ад суму здохнеш! Ты ж ведаеш, ён—самы нудны чалавек на свеце! Чуеш, Слаўка?

Бялявы нейк збянтэжана ўсміхнуўся і, гледзячы не на дзяўчыну, а паўз яе, кудысьці ўдалечыню, прамовіў:

— Ну што ты, Валя! Гэта я—запуда... Во, чуеце—загудзеў. Пара! Бывайце і не памінайце ліхам!

Ён памкнуўся падаць дзяўчыне руку, але яна засмяялася, абняла яго:

— Дай я цябе хоць пацалую на развітанне. Не саромейся, на вакзале ўсе цалуюцца. — Яна гучна цмокнула яго ў адну шчаку, пасля ў другую.— Не чырванейся, Слаўка, не чырванейся, я ж па-сяброўску... Абяцай, што прыедзеш пры першай магчымасці. Абяцаеш?

— Дзякую, дзякую, — гаварыў Слаўка. — Пастараюся прыехаць.

— Абавязкова, стары! — Слаўку падаў руку чарнявы, пасля паляпаў яго па плячы. — І—пішы! Чуеш, стары? Не лянуйся, пішы!

Цягнік крануўся, і яны—усе трое—адплылі назад, зніклі...

Магчыма, гэтыя трое засталіся б у маёй памяці ненадоўга—як многія з тых, каго надараецца бачыць у дарозе,—калі б не адна акалічнасць. Слаўка—той бялявы, у акулярах, хлопец, што развітваўся на пероне са сваімі сябрамі,—аказаўся маім суседам па купэ. І ехалі мы, як потым высветлілася, у адно месца—у Гомель: я—пісаць нарыс пра дзяўчат з панчошна-трыкатажнай фабрыкі, Слаўка...Але пра гэта пазней...

Ён зайшоў у купэ, апусціўся на лаўку насупраць мяне. Сядзеў і моўчкі глядзеў у акно. Я таксама маўчаў. Пасля дастаў купленыя «на дарогу» газеты. Але—не чыталася. Думалася пра Слаўку, які зацята-маўкліва глядзеў у акно, пра тых дваіх, што засталіся на пероне. Што адбылося між імі? Нешта ж, пэўна, адбылося, бо, гледзячы на іх, падалося мне, быццам ніякавата адчувалі яны сябе ў тыя апошнія мінуты развітання, быццам ненатуральна гучна, занадта гулліва гаварыла і смяялася тое мілае таўстакосае дзяўчо, быццам выраз нейкага балючага і сарамлівага смутку не сыходзіў з твару майго цяперашняга суседа. Гэты след смутку так і застаўся ў ягоных блізарукіх вачах. Ад чаго б гэта? Ад ростані з сябрамі? Можа быць. Але ж—не дужа ўмее моладзь сумаваць ад развітання з сябрамі і таварышамі: маўляў, усё яшчэ наперадзе, а, значыць, наперадзе і сябры, і не вельмі задумваюцца ў дваццаць год над тым, што—пройдзе час і адзін толькі ўспамін пра друга дзяцінства ці юнацтва прынясе табе найшчаслівейшую хвіліну ў жыцці... Што ж усё-такі адбылося між імі трыма?

Зрэшты, гэтае крыху надуманае пытанне турбавала мяне хутчэй за ўсё проста таму, што сусед мой маўчаў, а гэта было нязвычна. Ці мо таму, каб хутчэй мінаў час, ці таму, што вакол незнаёмыя людзі, з якімі ці звядзе цябе калі-небудзь выпадак, у дарозе чалавек, нават самы маўчун па натуры, разгаворваецца. Пераканаўся ў гэтым на свае вочы. Бывае, і не цягнеш чалавека за язык, а ўсю, як кажуць, душу выкладзець...

Сусед мой, аднак, маўчаў. Я зачыніў акно і выйшаў у калідор...

Пасля я сядзеў над бутэлькай піва ў вагоне-рэстаране, доўга курыў у тамбуры ў суседстве з гаваркім дзядзькам—не то з-пад Камарына, не то з-пад Калінкавіч. Дзядзька з чыста сялянскай непасрэднасцю і ахвотаю расказваў мне пра тое, што быў у Мінску ў сына, які нядаўна атрымаў «харошую трохкомнатную кварціру», пра старшыню іхняга калгаса, які «палучае больш за міністра якога», «хоць інсцітутаў і не канчаў, затое зямлю ведае і любіць», у якога «найпершы клопат—даць людзям жыць», пра сваю жонку, якая хварэе другі год і «ніхто не можа даць рады той хваробе»... Даведаўшыся, што я газетчык, дзядзька з незвычайнай цікаўнасцю распытваў, колькі мы, газетчыкі, зарабляем, як нам плоцяць—«за кожнае слова, кажуць, ці мо няпраўда?», як мы жывём з жонкамі—«гэта ж у дарозе заўсягды» і «ці ж заўсягды праўду пішаце? Пэўна ж і брахуны ёсць...»

Вярнуўся ў купэ, калі па-добраму сцямнела. Сусед усё драмаў над столікам. Я захінуў фіранку, уключыў «начнік» і пачаў слацца—па даўняй звычцы на верхняй лаўцы, хоць білет у мяне быў на ніжнюю: падсядзе хто-небудзь у дарозе, менш турбот будзе.

Сусед падняў галаву, азваўся:

— А чаму на верхняй? Нікога ж няма...

— А раптам з'явіцца госць? Ды яшчэ стары альбо з жывоцікам? Наверсе, калі хочаце ведаць, і спаць лепш. Спакайней.

— А-а-а... Ну, то і я палезу наверх...

Мы ўлягліся. Вагон пагойдваўся, манатонна пастуквалі колы, недзе нешта жаласліва скрыпела. Пад гэтую музыку і мернае пагойдванне я прывык засынаць хутка. Цяпер жа, чамусьці, сон не ішоў. Лезлі ў галаву розныя думкі. Успомнілася, чамусьці, праваднііца, у якой браў пасцель,—заспаная, з прыпухлымі вачыма жанчына гадоў пяцідзесяці. Як гэта яна—заўсёды ў дарозе, сярод чужых, незнаёмых людзей, людзей без імён і прозвішчаў, без усяго таго, што вызначае чалавека сярод іншых людзей, адводзіць яму пэўнае месца? Усё гэта замяняецца для яе, праваднііцы, адным безаблічным і неазначальным—пасажыр. І я пасажыр, і мой маўклівы сусед—таксама... Маўклівы сусед... Нештачка ж ты ўсё-такі тоіш у сабе. Відно ж—перажываеш. Дзяўчо, відаць, прычынай. А дзяўчо прыгожае, дапраўды. Толькі, як той казаў, не трэба ўсё ж пісаць пасмяротнага пісьма... Ну, а цябе, браце-коце, гэта вельмі турбуе? Проста—сну няма, вось і выдумляеш. А сну няма таму, што ты перагрэўся на сонцы, што трэба было выехаць учора, а калі ўжо не змог, дык трэба было ісці ў рэдакцыю, а не перціся з раніцы на возера. Відаць жа не прызнаешся, што дзень прагуляў? Вось і насмаліўся, вось і падсмажыўся, таму і сон не бярэ. Чуеш, як цела смыліць? Пакуль прасціна халоднай была, хораша было...

Я адкінуў коўдру, павярнуўся на бок і прыадчыніў ліштвачку вакна. Сусед таксама павярнуўся, адабральна прамовіў:

— Во, здагадаліся. А то дыхаць няма чым. Духата. Як перад дажджом... Ды і спаць нешта не хочацца. Вам таксама?

— Таксама. Спёкся сёння на сонцы.

— Адэкалон, кажуць, памагае. Трайны.

— Перацерпіцца. Скура не павінна злезці. Ніколі не лупілася.

— Можа і абыдзецца. Калі не першы раз на сонцы...

Ён памаўчаў, потым спытаў:

— Вы кім працуеце? Інспектарам, мусіць, школьным? Ці журналістам? Бо, бачу, ездзіць вам шмат даводзіцца.

— Угадалі. Другая старажытнейшая прафесія. Чулі, напэўна?

— Чуў. Сам марыў стаць журналістам, а вучыўся ў політэхнічным... У Гомель едзеце? Адтуль, мусіць, на нафту?

— Не, не на нафту. Да трыкатажніц гомельскіх. Вы таксама ў Гомель?

— Пакуль што ў Гомель. Да маці. А там—пабачу.

— Па накіраванні ці самі папрасіліся?

— І не паслалі, і не папрасіўся. Я ж не сёлета скончыў. Летась. У Мінску было пакінулі.

— А цяпер што ж?

— Працаваў год. А цяпер—звольніўся. Еду да маці. Адпачну крыху, а там відно будзе.

Сусед змоўк і маўчаў доўга. Цягнік прыпыніўся быў на нейкай станцыі. Лязгнулі буферы. Я

выглянуў у акно, але, апроч доўгай дашчанай будыніны, нічога не заўважыў. Праз хвіліну вагон скалыхнуўся, і па купэ пабеглі цені ад станцыйных ліхтароў. Нехта пратупаў па калідоры, але наша купэ абмінуў.

— Не да нас,—сусед перавярнуўся на жывот, абапёрся на локці.—Вы не спіцё? Хачу ў вас запытацца... Толькі вы не смейцеся... Вам спадабалася дзяўчына, што стаяла з намі на пероне? Помніце? Вы яшчэ акно адчынілі...

Тое, як былі вымаўлены гэтыя словы, выдавала суседа з галавою. Але я стрымаўся, не ўсміхнуўся:

— Прыгожая. Нават — вельмі прыгожая. Я, стары валацужнік, а і то не ўтрываў—акно апусціў...

Сусед заспяшаўся:

— Мае аднакурснікі. І Генка, і Валя. Вучыліся разам і працавалі разам. У адным эскабэ... Валя замуж выйшла... За Генку... Два тыдні назад падалі заяву...

«Дык вось яно што!—падумаў я.—Вось чаму табе было не да размоў». Было відно, што Слаўка хоча расказаць пра ўсё, але ці то не рашаецца, ці то не ведае, з чаго пачаць, і я пайшоў яму насустрач:

— А вы, даруйце, гэтыя два тыдні патрацілі на тое, каб звольніцца?..

— Можа быць.. Ведаю, вы скажаце: банальная гісторыя. Дзе двое, там трэці лішні, так? Славуты літаратурны трохкутнік? Аснова ўсіх камедый і трагедый? Калі не скажаце, дык падумаеце. Крыўдаваць не стану. Усё гэта, вядома, так, часта і сам так думаў, і не вельмі смяяўся на тых камедыях, і не вельмі плакаў на тых трагедыях...

Я не паспеў што-небудзь сказаць, як сусед зноў загаварыў:

— Не хочаце—не адказвайце... Мы, чамусьці, лягчэй схіляемся да таго, каб пасмяяцца з чужых няўдач, а не са сваіх... Не ўсе, вядома, але многія...—Ён зноў лёг на спіну.—Спаць не хочаце? Тады, калі жадаеце, раскажу вам невялічкую і зусім не трагічную гісторыю нашага трохкутніка... Я не ведаю вашага прозвішча, не ведаю, дзе вы працуеце, вы—нічога не ведаеце пра мяне. Мы—толькі суседзі па купэ, іншаму было б ніякавата пра ўсё гэта гаварыць, а так... Раз спаць не хочаце, слухайце.

І ён расказаў...

— Сёй-той з маіх знаёмых не аднойчы мне заўважалі, што я, маўляў, завельмі інфантыльны малады чалавек, асабліва ў пытаннях кахання, адносін з дзяўчатамі. Не ведаю, можа быць і так. Толькі здаецца мне, што многіх з тых, хто гэта мне гаварыў, я мог бы з большым правам папракнуць у душэўнай і цялеснай непераборлівасці, а некаторых—і ў разбэшчанасці. Гэта, як вы кажаце, не экспазіцыя. Проста так.

Пасябравалі мы з Генкам з першага курса. Да нас дваіх далучылася Валя... Ёсць, пэўна ведаеце, такія дзяўчаты, якім прыемней вадзіць кампанію з хлопцамі. Гэта, мусіць, тыя дзяўчаты, у якіх у галовах не толькі кіно, танцы ды транты-фасоны. Валя, здаецца, была менавіта такою... Мы заўсёды былі разам. І на лекцыях, і ў кіно, і на лыжах, і ў «ленінцы». Ну, а ў час сесій, дык днямі і начамі разам. Генка, Валя і я...

Здаецца, ні Генка, ні я ніколі і не думалі, што некалі між намі трыма будуць нейкія іншыя адносіны, чым адносіны сяброўства. Валя, мусіць, думала гэтаксама, бо я ніколі не заўважаў, каб яна каго-небудзь з нас вылучала. Наадварот, калі сёй-той пачынаў з нас пацвельвацца—маўляў, трохкутнік яшчэ не расколаўся,—яна смяялася: «Хлопчыкі, я ж не падыходжу для ролі «яблыка раздора». Ды хіба ў каго з вас можна закахацца? Вы для гэтага занадта сур'ёзныя». А мы, у сваю чаргу, таксама гаварылі: «Валечка, хоць ты і прыгожая, хоць ты, можа, увасабленне лепшых якасцей другой паловы роду чалавечага, аднак не крыўдуй: нават дзеля цябе мы ніколі не ахвяруем сваім сяброўствам». Валя заходзілася ад рогату: «Не ахвяруеце? А калі я захачу? Вось будзе здорава і пацешна, калі хто з вас надумаецца прызнацца мне ў каханні! Уяўляю: Слаўка, заікаючыся, чырванеючы, гаворыць, што любіць мяне! Дык не ахвяруеце? Чакайце ж! Прыйдзе коза да воза! Ну і пасаджу я вас за нос, хлопчыкі!»

Жарты-жартамі, а я сапраўды адчуваў, што чырванею, бо... Валя станавілася для мяне не проста і не толькі сяброўкай, аднакурсніцай...

Мне дваццаць трэці год. У бацькі майго ў такім узросце было ўжо двое дзяцей. А я, бачыце, расказваю вам, як хлапчук, які ўпершыню схадзіў са сваёй аднакласніцай у кіно. Можа быць, усё гэта сапраўды смешна...

Успамінаю сябе школьнікам. Хлопцы ўжо ў дзевятым класе гаварылі пра дзяўчат, навыперадкі хваліліся сваімі рыцарскімі поспехамі. А ў дзесятым сёй-той з маіх аднакласнікаў па-сакрэту шаптаў часам і пра тое, што звычайна не гавораць. Я слухаў гэтыя шэпты і верыў ім і не верыў. Былі, прызнаюся, хвіліны, калі я нават зайздросціў шаптунам, але часцей шэпты гэтыя мяне абуралі, бо чулася мне ў іх нешта няшчырае, бруднае, агіднае. Аднойчы абурыўся ўголас — заступіўся за адну дзяўчынку. Тады адзін з гэтых смаркатых дон-жуанаў паблажліва паляпаў мяне па плячы і сказаў: «Дзетка, папрасі маму, каб прышыла табе да штонікаў шлеечкі». А калі ішлі ў той дзень дахаты, дык ён павучаў мяне: «Слаўка, не будзь дурнем... Кожная з іх толькі прыкідваецца незачэпай...»

Не, вы не думайце, што я быў нейкім асаблівым, не такім, як іншыя падлеткі. Нешта ва мне гаварыла, што той мой аднакласнік—паганец. Калі не на самой справе, дык у душы, і што ён варты таго, каб за такія словы атрымаць па мордзе. Але было ў ягоных словах нешта такое, што трывожыла. Мне падабалася адна дзяўчынка ў класе, і мне да болю хацелася забрысці з ёй вечарам у самы патаемны куток парку ці забіцца на Сожы ў лодку—каб нас ніхто не бачыў, каб мы былі адны на цэлым свеце. Але я не рашаўся запрасіць яе куды-небудзь, я баяўся хоць чым-небудзь выдаць сябе перад ёй, перад аднакласнікамі. Я быў рады, што, прыходзячы ў школу, проста бачыў яе, чуў яе голас, смех...

Такім я прыйшоў і ў інстытут, адразу пасля школы. І тут сустрэў Валю...

Неяк мы сустракалі Новы год. На кватэры ў Валі. Былі мы з Генкам, яшчэ некалькі хлопцаў і дзяўчат з нашага курса, бацькі Валі. Пілі віно, спявалі, жартавалі, танцавалі. Бацька Валін шапнуў мне выйсці ў калідор. На лесвічнай пляцоўцы мы з ім па-змоўніцку курылі: маці не дазваляла яму курыць, бо ў яго нешта не ладзілася са здароўем. Нас накрыла ў калідоры маці, адабрала ў мяне папяросы, накрычала на абодвух, а мне яшчэ дадала: «Калі хочаш быць маім зяцем, кідай курыць сам і бацькі не зводзь!».

Пасля ўсім гуртам паселі на падлозе і круцілі бутэльку. Мне выпала цалавацца з Валяй. Помню, што зарабіў ад яе тумака па спіне: зачапіўся акулярамі за пасмачку яе валасоў і доўга не мог выблытацца...

Ішлі адтуль з Генкам, у інтэрнат. Спявалі сярод ночы песні, шпурляліся снежкамі, нават пасядзелі ў гурбе снегу ў нейкім скверыку. Генка жартаваў: «Стары, не здраджвай клятве. Не псуй дзяўчыны. А то можаш і ўсур'ёз закахацца...» Я адмахваўся: «Ці не сам ты, брат, таго, га?»...

Так, ад сесіі да сесіі, у частых жартах і гэтакіх жа частых студэнцкіх засмучэннях бег час. На сур'ёзную гаворку з Валяй я так і не рашыўся. Не гаварыў пра гэта і з Генкам—нешта стрымлівала. Скончылі інстытут. Папрасіліся ўсёй тройцай на адзін завод, у адно эскабэ, і жыццё наша амаль не змянілася. Жылі мы з Генкам па-ранейшаму ў інтэрнаце—толькі ўжо ў рабочым, пасля работы, як раней пасля лекцый, праводзілі Валю да трамвая альбо да самой хаты.

І вось аднойчы... Правёўшы Валю да трамвая, вярталіся ў інтэрнат. Каля аднаго з вулічных ліхтароў Генка падаў мне лісток паперы: «Прачытай, стары, гэта, здаецца, і цябе датычыцца...» Я разгарнуў лісток і ўбачыў, пазнаў Валін почырк. Яна пісала Генку, што любіць яго, што больш не можа хавацца ні ад сябе, ні ад яго...

Я змог нават усміхнуцца Генку: «Што ж, брат, мы аказаліся стойкімі, яна першай пала ніцма перад маім сябрам. Віншую. Здаецца, ты даўно адказваеш ёй узаемнасцю...» Апошняе я сказаў проста так. І быў уражаны яшчэ больш, калі пачуў: «Дзякуй, стары!»

Вось і ўсё, бадай... Цяпер Генка перайшоў жыць да Валі—у іх тры пакоі... А я звольніўся. Сказаў, што занядужала маці, кліча да сябе. Здаецца, не паверылі...

Мінулі Жлобін, пад'язджалі да Гомеля. Апранаючыся, Слаўка зноў загаварыў:

— Кажуць, у наш час словы «любоў да магілы», «ніколі не забуду» выйшлі з моды. Няхай сабе. Толькі, паверце, адчуваю: сапраўды не забуду. Не змагу забыць...

На прывакзальную плошчу ў Гомелі мы выйшлі разам. Слаўка закінуў за плечы сінюю спартыўную торбу:

— Ну, бывайце. Мне тут недалёка, пайду пешшу. А вы тралейбуса пачакайце, прама да гасцініцы даедзеце. Дзякую за кампанію. І—хай удасца нарыс!

Мне хацелася сказаць яму таксама нешта добрае, але—не знайшлося, і я махнуў рукой:

— Шчасліва!

Яго сіняя торба доўга яшчэ матлялася сярод вулічных прысад.

---

*ГОСЦІ МІНСКА*

У Мінску пабывалі салісты французскага балета Клер Самбер і Мішэль Бруэль. Зоркі французскага балета выступілі ў двух спектаклях Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета — «Жызель» і «Лебядзінае возера». Мінчане цёпла сустрэлі выступленне замежных гасцей.

Фота Ю. ІВАНОВА.

*ПРА ПЕРШУЮ КНІГУ ПІСЬМЕННІКА*

# НЕ ЗАСПАКОЕНАСЦЬ, А КЛОПАТ...

Пра першыя паэтычныя зборнікі, што выпусціла выдавецтва «Беларусь» у мінулым годзе ў серыі «Першая кніга паэта», гаварылася і пісалася многа. Кніга ж лірыкі К. Камейшы «Восеньскія позвы» ў гэтым шырокім абмеркаванні «ўціснулася» ў сярэдзіну паміж зборнікамі, якія атрымалі даволі высокую ацэнку і тымі, якія крытыка аднесла да творчых няўдач аўтараў. Такая «залатая сярэдзіна» — небяспечная для паэта, бо міжволі думаецца, што ў ёй, мабыць, і знаходзіцца своеасаблівы «цэнтр цяжару», у якім найбольш выразна выяўляюцца лепшыя рысы і недахопы творчых пошукаў літаратараў самага маладошага пакалення. Ці так гэта?

Лірычны герой кніжкі «Восеньскія позвы» прагавіты на ўражанні, з рамантычнай узнёсласцю ён цягнецца да жыццёвай свежасці і навізны, шмат падарожнічае. З калейдаскапічнай хуткасцю мільгаюць перад ім лясістыя прасторы Наднямоння, «свежай музыкай вады» грымяць петрадварэцкія фантаны, апякаюць радасцю сэрца суровыя далі сібірскія, і вось ён аж «ля самага праліва Лаперуза» чуе «ўсхваляваную вясну» ў родным краі і ад усяго гэтага — «кружыцца, як кола, галава».

Але гэта яшчэ толькі ўмоўная траекторыя творчага палёту аўтара. Паглядзім жа, што хаваецца пад яе вонкавым пластом. Тэматычная разнастайнасць вершаў і стракатасць жыццёвых уражанняў лірычнага героя не можа ад нас засланіць галоўнага — глыбіні асэнсавання паэтам навакольнага свету, трапнасці і дакладнасці ў выяўленні яго асаблівасцей і кантрастаў.

Нямала нам прыйдзецца пабудаваць,
Больш, чым прыйшлося нам пабедаваць.
Мы ўсё пабудуем, што ў планах і думках,
І нават чаго у думках няма.
Увекавечацца нашы душы
У гэтых вечных дамах.
Галоўнае — помнілі толькі б унукі,
У свае наймудрэйшыя ўсе вякі
Пра гэтыя рукі,
Верныя рукі,
Трымаўся наш век на якіх...

Гэта заключныя радкі з верша «Будоўля». Здаецца, ўчас на іх паставіць бы кропку, але паэту хочацца яшчэ пажадаць напаследак нашчадкам:

Няхай і яны запускаюць ракетамі
Паверхі у сінюю, звонкую рань.
...Мы ў згодзе ішлі, цесляры і паэты,
І гучна камандаваў намі прараб.

Наогул, некаторым вершам К. Камейшы, што ўвайшлі ў зборнік «Восеньскія позвы», нестае арганічнай злітнасці думкі, вобраза і формы, паэт часам забывае, што **чыстай** думкі ў паэзіі ўвогуле не бывае, што яна заўжды мае эмацыянальную афарбоўку. Гэтыя папрокі могуць паказацца дзіўнымі, бо менавіта кніжка К. Камейшы знешне вылучаецца сярод першых паэтычных зборнікаў мінулага года частымі адступленнямі ад класічнай формы верша, імкненнем асвоіць новыя рытмы, аздобіць вершаваныя радкі непаўторнымі свежымі метафарамі, параўнаннямі, узбагаціць іх новымі інтанацыямі: «Душа ўся навострана, як рогі» (верш «Ласіныя рогі»); «І сплывае з аселіц соннае марыва са слядамі роснымі — апазнавальнымі знакамі... Лягу спаць. Толькі месіку доўга не спаць. Ён акна шакаладную плітку аж да ранку будзе смактаць» («Казка»); «А сонца так пячэ, нібы праз лінзы, і промні цела прабіваюць да касцей» («Гарачыня»); «І ты, не снедаўшы, забудзеш пра вячэру...» («Перасяленне»). А вось як смела паэт абыходзіцца з рыфмамі: «выбіралі—вібратарам», «Патушана—туфляў», «вербамі—вернасці»,«удовы—удавы».

Не будзем удакладняць яўную запазычанасць мастацкіх сродкаў выказвання паэтычнай думкі, якая тут прасвечваецца, не будзем ушчуваць паэта за творчыя пошукі. Нас больш цікавяць канечныя вынікі іх. Таму наспявае патрэба параіць паэту ашчадней адносіцца да слова, тым больш, што К. Камейша — паэт цікавы і здольны.

Бясспрэчна, засяроджанасць, упэўненасць, душэўная раскутасць і творчая свабода — адна з неабходнейшых умоў творчасці. Бясспрэчна і тое, што дзе б ні быў паэт, пра што б ні пісаў, — ён не павінен быць парабкам чужых думак. Але імкненне да арыгінальнасці і непаўторнасці паэтычнага голасу павінна рэалізавацца ў паэта не знешнімі прыёмамі, не павярхоўным мудрагельствам. Яно павінна натуральна вырастаць знутры паэта, як асобы, выяўляючы яго сутнасць. Здаецца, да гэтай высновы прыйшоў і сам паэт, мяркуючы па яго вершах, змешчаных на старонках часопісаў і газет у апошні час.

Што ж да «Восеньскіх позваў», дык і ў іх нямала вершаў, у якіх істотна-важнае ў паэзіі К. Камейшы перамагае над другарадным, часовым, у якіх паэт уводзіць нас у свет складаных жыццёвых з'яў і сітуацый і дамагаецца хвалюючага іх паэтычнага асэнсавання, («На кірмашы», «Балада пра антонаўку», «О, вёскі...», «Магілы камісараў» і інш.).

Вось як вольна і хораша кладуцца на паперу радкі, калі паэт піша пра сваё дзяцінства («Восеньскія позвы»):

Дзяцінства — гэта такая краіна,
Дзе ні ўлады, ні здрады няма,
Дзе салодкім бывае сок каліны
І, як вясна, лагоднай зіма.

Яшчэ хочацца сказаць пра тое, што паэт добра ўсведамляе сваю сувязь з роднай зямлёй, і за смугою смутку па стратах, якія зведала яна за свой нялёгкі гаротны лёс, верыць у свет, што пахне «не порахам—бэзам».

Першы паэтычны зборнік — гэта ўжо ўчарашні дзень у творчасці К. Камейшы. Як бачым, паэту ён прынёс больш клопату, чым заспакоенасці. Але ў яго ўсё яшчэ наперадзе, толькі б у сэрцы не заціхалі трывожныя гудкі нашага часу.

Казімір Камейша. «Восеньскія позвы». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1969.

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ.

# СЮРПРЫЗ ТРАФІМА ГЛУШКОВА

**Мастацкія фільмы «Бераг прынцэсы Люські» і «Чырвоны агітатар Глушкоў» не толькі дэбют маладых рэжысёраў В. Нікіфарава і В. Рубінчыка — яны дэбют і нядаўна створанага пры «Беларусьфільме» аб'яднання тэлевізійных фільмаў.**

**Першая прадукцыя, якую выдаў новы творчы калектыў, прыцягнула да сябе ўвагу гледачоў і крытыкі.**

**Сёння, друкуючы рэцэнзіі на гэтыя фільмы, «Літаратура і мастацтва» жадае дэбютантам новых здабыткаў і плёну ў творчасці.**

Крычыць паравоз. І, рвануўшы дзверы вагона, Глушкоў (арт. В. Базін), які ўмомант ацаніў сітуацыю, бяжыць па шпалах за паравозам. Страляе ўгару, заклінаючы ў лютасці «імем»!», але дарэмна: ён са сваім агітвагонам засеў тут, на вымерлай чыгуначнай станцыі, заваленай паперамі.

Так пачынаецца фільм «Чырвоны агітатар Трафім Глушкоў»...

— Белая шкура!.. — трасе наганам Глушкоў перад чалавекам у чыгуначнай форме.

— Прарыў, таварыш, — стомлена тлумачыць начальнік станцыі. — Дарога адрэзана белымі. І забярыце наган. Мяне ўжо расстрэльвалі. Два разы. Я прывык...

Гэта стомленае «Я прывык...» імгненна ўваскрашае час, аддалены ад нас паўстагоддзем.

Чырвоны агітатар Трафім Глушкоў гайдаецца ў вагоне сярод лавак, крэслаў са спінкай «бублікам», курортных пейзажаў з пальмамі і морам, намаляваных на прасціне, каля нямецкага кінематаграфічнага апарата «кок».

Ен вельмі малады. І вельмі сур'ёзна ставіцца да сваёй місіі «ўздзеяння на масы» паводле асабістага ўказання камісара Фадзейцава, «уздзеяння» паказам фільмаў «Улада плоці» і «Казка фатальнай любві».

Стылістыка фільма дакладная і вобразная. След, які пакідаюць нямыя фільмы ў юнай душы Глушкова, выплывае на экране ў выглядзе цітраў. (Стомлены чалавек у фуражцы і надпіс: «Начальнік станцыі»).

Трафіма, які засеў на станцыі, ахоплівае энергія. На тое ён і прыстаўлены да тэхнікі, каб пераадолець перашкоды! І новы цітр паведамляе нам, што «Трафім Глушкоў праявіў кемлівасць». Перабіраючы доўгія лейцы, Трафім садзіцца на дах і правіць канём, які цягне размаляваны лозунгамі вагон, падобны на фургон або на дыліжанс... У вагоне Глушкоў нечакана сустракае дзяўчыну (арт. І. Азер). «Медсястра 27-га палка К. Зыкава», — падказвае надпіс. «Саскоквай! — злуецца Трафім. — На хаду скачы. Каня спыняць не буду. Яго потым з месца не зрушыш». І астывае. Каціна бездапаможнасць гасіць апошнюю ўспышку гневу.

«У другой палове дня», — гаворыць цітр. Конь упарціцца пад праліўным дажджом. Прамоклыя Трафім і Каця сушацца ля «буржуйкі». «Вы запэцкаліся, — гаворыць Каця. — Тут. І тут». У гледача перасыхае ў горле: на дзіва чыстае працістаянне іх твараў. Пахнуць дажджом Кацiны валасы. Улюблёны ў свой «чароўны ліхтар», Глушкоў паказвае Каці «Казку фатальнай любві». Ах, якая казка! Герой з бародкай і фатальнымі вачыма ўсцілае шлях дамы кветкамі...

У якім кірунку цячэ час, вызначыць немагчыма. Вайна, прарыў на фронце, трывога руху невядома «ў якую ўладу» — усё застаецца па-за жыццём гэтых дваіх, для якіх час здаецца, не існуе.

Але даганяе іх, стукнуўшы па буферы, вагон. Цітр «Вандроўны вагон» — апошні ў фільме Глушкоў з наганам падбіраецца да вагона, адчыняе дзверы. У твар яму раўнадушна тыкаюцца тупарылыя снарады. «Нічога, здалося», — супакойвае ён, устрывожаны сам, Кацю.

...Разбуджаны шумам колаў, Глушкоў рады: «Каця, мы едзем!» «Якая ўлада ў эшалоне?» — крычыць ён насустрач паравознаму гудку і не чуе адказу. Усё ў ім радуецца, вось зараз ён прадэманструе сваю тэхніку! Не дарэмна зберагаў, захоўваў! І, акрылены, узрадаваны пахлапечы, не заўважае выпраўкі каменданта эшалона... Узброеныя людзі запаўняюць вагон перад сеансам.

Спатрэбіцца яшчэ некалькі хвілін, пакуль Глушкоў зразумее сітуацыю. Моўчкі будзе стаяць ён перад начальнікам станцыі, прывязаным дротам да прыступкі. На адкрытай платформе музыканты ляніва іграюць старадаўні вальс... Тым мацней узрушэнне Глушкова.

Інтанацыя фільма становіцца сур'ёзнай. «Я гатовы, — стрымана гаворыць Глушкоў. — Я наогул гатовы». І пачынае паказ фільма...

І тут, у логаве ворагаў, у Глушкова нараджаецца сапраўдная нянавісць да жывога ворага. Пачынае ненавідзець ён і «казку» аб «шалёных дваранскіх трутнях» і саміх «белагвардзейскіх князёў», якія сядзяць тут жа... І Глушкоў пачынае сваё «тлумачэнне падзей папярэдняга ладу». На экране п'яная пара з захапленнем танцуе. «Калі мы гінем за сусветную рэвалюцыю!» — абураецца ўголас Глушкоў.

Зараз Каця адчэпіць вагон і паедзе ў змрок, «белякі» застрануць у дарозе — гэта ўсё, што можа зрабіць Глушкоў. Усё? Не. Ён можа яшчэ агітаваць — палымяна, як ніколі.

Дэманстратар Глушкоў становіцца чырвоным агітатарам.

...Крыўляюцца адкормленыя, выглянцаваныя «князі». «Перад вамі буржуазная культура і поўная распуста!»

І раптам мы бачым, як па-рознаму ўспрымаюць фільм белагвардзейцы. Як панура глядзіць салдат, абапёршыся на штык. Заплюшчвае вочы і шэпча малітву ўсходні афіцэр. Пагарда на тварах... І задавальненне — на іншых.

«А зараз рэвалюцыйны сюрпрыз!»

І ў поўнай цішыні перад тварамі белагвардзейцаў праходзяць, чаканячы крок, палкі па Краснай плошчы... Гаворыць Ленін. Людзі ідуць імкліва, нібы падхопленыя часам. Кліча на дапамогу баец з трубой...

І Глушкоў сярод тупату, свісту адчувае сябе частачкай маналітных радоў Чырвонай Арміі, конніцы, якая рассыпалася па аблезлых узгорках, ляціць па сцяне...

Глушкоў, якому нехта ў сутычцы дапамагае выскачыць з вагона, не адстрэльваецца. Ён бяжыць, паўзе, прыціскаючы бабіну з каштоўнай плёнкай... Пакуль не даганяе яго куля. Пакацілася і ўпала бабіна...

Нечаканая гібель Трафіма. Усім сваім звычайным жыццём у фільме Глушкоў адмаўляе такую вобразную смерць...

Але хай так. Фільм вельмі хвалюе. Яго стваральнікі яшчэ раз паказалі, што «чалавек і рэвалюцыя» — тэма невычэрпная.

**Т. СМАРАДЗІНСКАЯ.**

# ПОБАЧ З УДАЧАЙ

На нашай памяці па старонках літаратурных часопісаў і па экранах пратупала столькі маладых фізікаў, матэматыкаў, геолагаў, што імі напэўна можна было б укамплектаваць добрую сотню навукова-даследчых інстытутаў...

Яшчэ адзін фільм «пра геолагаў» знялі маладыя мінскія кінематаграфісты рэжысёр В. Нікіфараў і аператар Э. Садрыеў па сцэнарыі А. Куваева на аб'яднанні «Тэлефільм» студыі «Беларусьфільм».

У пошукавую партыю прыязджае маладая прыгожая дзяўчына Люська (артыстка С. Смехнава). Яна студэнтка-дыпломніца, масквічка. Паміж ёю і «сапраўднымі хлопцамі» Барысам (артыст В. Тушанцаў), Лёхам (артыст А. Паддубенскі) і Мішкам-Барадой (артыст В. Мірашнічэнка) завязваюцца сяброўскія адносіны. На нейкі час хлопцы нават прымаюць яе за «сваю» і, манкіруючы службовымі абавязкамі, па шчырасці душэўнай дапамагаюць ёй збіраць матэрыял для дыплома. Але Люська зусім не тая, за каго яе прымаюць: яна ўчэпістая, практычная, чэрствая — гэткая маленькая драпежніца, «сталічная штучка». Яна адлятае, не дачакаўшыся прыходу хлопцаў «з маршруту», забыўшыся на тое, што яе прасілі адвезці нейкія важныя паперы. Хлопцы разумеюць, што яны памыліліся, што іх падманіў знешні бляск, што пустую пароду прынялі за каштоўны мінерал...

Ёсць у геаметрыі такі метад доказаў — метад накладвання. Калі прымяніць гэты метад для выверкі хаця б толькі знешніх характарыстык герояў гэтага фільма, дык можна заўважыць, што яны, калі не роўныя, дык вельмі ж падобныя да цэлага шэрагу іх папярэднікаў у кіно і літаратуры.

Вось Люська — дзяўчына з зялёнымі вачыма і доўгімі нагамі, мае ўсе прыкметы «незвычайнай дзяўчыны», прынцэсы «на ўсе сто». Па-першае, яна лятае толькі на верталётах («...комплекс зачаравання і ледзяной ветлівасці. На пілотаў гэта дзейнічае здорава»); па-другое, у яе аранжавая кепка (другой такой, дальбог, не знойдзеш ад Енісея да Калымы); па-трэцяе, яна ведае ўсе тонкасці «экспедыцыйнай душы» і, канечне, не дазволіць сабе з'явіцца ў партыю без пляшкі каньяку.

У Барысе мы адразу пазнаём бездакорнага рыцара ад навукі, для якога ёсць адзін бог — ісціна. Лёха — рамантык, «свой хлопец», захавальнік пошукавых традыцый, гітарыст і летуценнік. Барада — рабацяга, негаваркі тугадум, з якога можна кпіць, але якому можна даверыцца.

Гавораць яны паўнамёкамі, як мячыкам перакідваюцца іранічнымі «шматзначнымі» фразамі. Разумеюць адзін аднаго з паўслова. Працуюць так, як і павінны працаваць геолагі паводле нашага стэрэатыпу — узваліўшы на плечы цяжкія рукзакі, бадзяюцца па тайзе, па балотах, знясіленыя падаюць на зямлю, кураць адну цыгарэту на трох і зноў ідуць некуды без пэўнай мэты, адвязаўшыся ад нас, гледачоў, мала зразумелай фразай:

— Пуста!

— Ясна, як сляза!..

Здавалася б, усё ясна і нам... Але — мы выходзім з глядзельнай залы з такім пачуццём, быццам сутыкнуліся ўсё ж з нечым сапраўдным, быццам расказаная гісторыя — без падману, быццам даведаліся аб нечым такім, чаго раней не ведалі, не заўважалі.

Чаму банальная, знаёмая нам гісторыя ўспрымаецца нават як адкрыццё?

У мяне склалася такое ўражанне, што рэжысёр з самага пачатку ўсвядоміў і слабыя, і моцныя бакі сцэнарыя. Ён прыклаў усе намаганні, каб удыхнуць у даволі дыстрафічную схему «душу жывую», каб пераканаць нас у рэальнасці падзей, каб героі «абраслі» мускуламі. У выніку з'явіліся трапныя, дакладныя дэталі, цікавыя назіранні, нават — жывыя людзі.

Героі зусім не такія простыя. Пад знешнім лакам у іх ёсць яшчэ нешта, нейкі сапраўдны ўнутраны свет, які сілай абставін схаваны ад нас. А абставіны такія: з'явілася дзяўчына, якая выбівае хлопцаў са звыклай каляіны. І яны для **ЯЕ** пачынаюць гуляць у «сапраўдных геолагаў», міжволі падрабляюцца пад **ЯЕ** ўяўленне аб тым, якімі павінны быць маладыя вучоныя.

Вось эпізод ля вогнішча. Люська просіць заспяваць вядомую песню пра туманы, пра водар тайгі... Вытрымаўшы шматзначную паўзу, Лёха пачынае другую — «сапраўдную». Люська ў захапленні. Твары ва ўсіх сур'ёзныя. І толькі адзін міжвольны іранічны погляд Барыса спярша на Люську, потым на Лёху, зноў на Люську — і мы разумеем, што і гэта песня хлопцамі не ўспрымаецца ўсур'ёз, што яна таксама толькі для яе, для «прынцэсы».

Такім жа намёкам раскрываецца ўнутраны свет Барыса, калі Люська просіць яго адзначыць на яе плане некалькі фіктыўных «пляцовак».

— Прымалюем, будзем жыць?..— пытаецца ён у яе.

— А хто даведаецца? — пытаннем на пытанне адказвае Люська.

— У нашай справе галоўнае — дакладнасць, — спакойна, проста, з нейкай дзіўнай шчырасцю ў голасе гаворыць Барыс. І для нас раптам робяцца зразумелымі словы Лёхі: «Тры гады ў такім перспектыўным раёне, і ўсё закрываем ды закрываем...»

Відаць, гэты другі план не быў прадугледжаны загадзя. І добра, што акцёры здолелі ўгадаць яго, падхапіць, тактоўна пранесці амаль праз увесь фільм. Чаму амаль? Ды таму, што і рэжысёру, і акцёрам не хапіла, на жаль, веры ў сваю шчаслівую знаходку, таму што ў канцы фільма, пад заслону, яны не вытрымалі і, быццам стаміўшыся «выцягваюць» намаляваны імі другі план у характарыстыцы сваіх герояў, «спускаюць фільм на тармазах». Выбуху, якога мы чакалі, так і не адбылося. Мы так і не ўбачылі Барыса, Лёхі, Мішкі без масак-стэрэатыпаў, якія яны добраахвотна нацягнулі на сябе, каб дагадзіць прынцэсе.

Прачытаўшы абразлівую запіску Люські, Лёха спускаецца да ракі па ваду. На беразе стаіць шыльдачка з надпісам «Бераг прынцэсы Люські», якую ён сам укапаў тут некалькі дзён таму. Лёха чытае надпіс і раптам... штурхае шыльду нагой.

Дробязь? Не! Гэтая дэталь перакрэсліла нашы спадзяванні. Мы зразумелі, што хлопцы прайгралі, што яны самі на ўзроўні Люські, што ім не хапіла высакароднасці, жыццёвай мудрасці, каб узняцца над схемай, над якой яны намагаліся ўзняцца на працягу ўсяго фільма.

**А. БЕЛАВУСАЎ.**

# АКРЫЛЕНЫ ПЕСНЯМІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 10-й стар.)**

Помню канцэрт, які адбыўся ў Беластоку 6 чэрвеня 1937 года. Сярод слухачоў была вялікая праслойка рабочых. Вось што пісаў тады рабочы, малады паэт Сяргей Крывец:

«Федзька, «Дубінушку»! — гукала калісьці руская «галёрка» знанаму Шаляпіну.

— Міхась, «Лявоніху»! — дамагаецца цяпер беларуская ад свайго спевака Забэйды-Суміцкага...

Аб чым сведчыць такая блізкасць, інтымнасць паміж слухачом і артыстам, даказваць у дадзеным выпадку амаль што не трэба. Ёсць у душах людскіх такія струны, якія, адпаведна кранутыя, гудуць згодным, магутным акордам і сціраюць граніцы паміж душамі людзей. У гэты момант несмяротныя ідэі роўнасці і братэрства ахінаюць чалавека. Вось і ёсць тут самае высокае выяўленне мастацтва.

Рускую народную песню Шаляпін падняў да вышыні мастацкага шэдэўра. Тое ж самае, на маю думку, зрабіў Забэйда-Суміцкі з беларускай народнай песняй.

Трэба было бачыць на канцэрце, як публіка рэагуе на кожны паварот, на кожны пераліў чароўнага голасу нашага мастака, які з першых тонаў апаноўвае душою публікі і з асаблівай лёгкасцю вядзе яе праз лабірынты далікатных перажыванняў. Іменна, трэба бачыць і адчуць, як зала заміpae з журбой «Маладога дубочка», як дрыжыць, згарае агнём юнацтва з песняй «Ці грэх цябе любіць?»

У людзей старых, адарваных ад народнага грунту, у якіх усякая сувязь з нашым жыццём, здаецца, знікла, мы бачылі слёзы. Гэта былі слёзы шчасця і радасці...

Наша песня яшчэ не дапета!

Яна чароўная, як сама душа беларускага народа,— магутная, як укрытыя ім таленты, і светлая ў настроях, як будучыня народу яе стварыўшага!

Культурнае значэнне М. Забэйды-Суміцкага велізарнае. Ён кінуў на хвалі эфірнай прасторы красу нашай песні. Так, для англійскай фірмы «Адэон» ён наспяваў на грампласцінкі 10 беларускіх народных песень, столькі ж — для польскай фірмы «Муза» Чэхаславацкая фірма «Супрафон» таксама выпусціла некалькі доўгаіграючых пласцінак з беларускімі песнямі ў выкананні Забэйды. Калі я быў у Карлавых Варах, мне хацелася набыць пласцінку, на якой было з аднаго боку пяць песень на іспанскай мове, а з другога — шэсць на беларускай. Мне адказалі, што усе распрададзены. Я звярнуўся ў Прагу, і там не аказалася: усе закуплены — нават ў Егіпет і ў Японію. Больш дзесяці песень выпусціла грамафонная фірма ў Канадзе. Апошні запіс, зроблены фірмай «Супрафон», наспяваны Забэйдам-Суміцкім,—17 песень і рамансаў беларускіх савецкіх кампазітараў Аладава, Багатырова, Галкоўскага, Алоўнікава, Падкавырава, Туранкова, Пуксты, Чуркіна...

Нашаму цудоўнаму песняру споўнілася 70 гадоў. Ад сэрца з нізкім паклонам віншуем дарагога Міхася з нагоды гэтага юбілею. Жадаем заўсёды моцнага здароўя, а яго вялікае майстэрства няхай наследуюць і падымаюць нашы маладыя!

Ул. МАХЭЕК

# ЖОНКА



Палымянаму камуністу, бескампраміснаму пісьменніку, актыўнаму грамадскаму дзеячу і шчыраму другу Савецкага Саюза Уладзіславу Махэеку споўнілася 50 гадоў. Нарадзіўся ён у сялянскай сям'і. Яшчэ ў гімназіі ўступіў у Камуністычны саюз польскай моладзі. У час акупацыі прымаў удзел у арганізацыі партызанскіх атрадаў. Пасля вызвалення Польшчы працаваў на партыйнай і журналісцкай рабоце.

Дэбютаваў пісьменнік у 1938 годзе. З-пад яго пяра выйшаў шэраг раманаў, аповесцей, зборнікаў апавяданняў, артыкулаў.

Раман «Рапарт не будзе пасланы» быў апублікаваны выдавецтвам «Беларусь» у 1961 годзе. «Смерць генерала» ўвайшла ў зборнік апавяданняў польскіх пісьменнікаў «Ад Буга да Одры», выдадзены летам 1969 года таксама ў выдавецтве «Беларусь».

З 1952 года Уладзіслаў Махэек—галоўны рэдактар штотыднёвіка «Жыцце літэрацке». Ён—кавалер вышэйшых ордэнаў Польшчы, лаўрэат некалькіх літаратурных прэмій, член ЦК ПАРП, дэпутат сейма.

У НЕВЯЛІКІМ цабэрчыку яна мыла акрываўленую кашулю. Мыльная вада ператварылася ў кроў ці кроў—у мыльную ваду? Слёзы плылі з раны, бо сэрца балела, як рана.

— Я табе адкрыю вочы, каб ты не трапіла ў бяду, —гаварыла Галіне колькі гадоў таму назад Юзка Міхцік з Сасноўца.—Не паясі ты за ім хлеба, вельмі ж гэты Павел неспакойны, проста жах.

Узнікала падазрэнне, што сяброўка нагаворвае па зайздрасці. Павел быў малады, смуглы, з агністымі вачыма, а рукі... магутныя рукі волата, здольныя ўтрымаць нават абедзвюх дзяўчын. Аднак яны выбралі адну—Галіну. На пачатку знаёмства свой поспех яна шукала ў люстэрку і не без жалю глядзела на смуглы твар са свежымі, не абуджанымі вуснамі, акружаны валасамі з ружаватым адценнем. Яна ў сваім выглядзе нічога надзвычайнага не прыкмеціла, апрача юнацтва—уласцівага ж тысячам іншых. Але пры думцы, што яна Паўлу падабаецца і ён аддае ёй перавагу, сэрца забілася мацней.

Калі б ён гаварыў тады пра каханне, напэўна зачараваў бы яе, але ён ледзь толькі сказаў два словы пра добрае надвор'е, якое будзе спрыяць ім на загародных пясчаных сцежках сярод мізэрных сасонак, як тут жа з захапленнем пачаў гаварыць пра забастоўку, голад, беспрацоўе.

— Сёння перад пякарняй упала жанчына, а побач бездапаможна апусціўся на калені хлопчык... У яе быў такі выгляд, быццам пах хлеба адабраў рэшткі сіл. Абое працягвалі рукі. Прахожыя пазіралі на іх або адварочвалі галовы ўбок. Гэта каменні, не людзі. І ўсё ж той-сёй кідаў дробныя манеты. Я спыніўся на хвіліну і хацеў зразумець, хто з іх, міласціўцаў, пратэстуе супраць такога ладу жыцця, а хто маўчыць. Наслухаліся ж пропаведзей пра літасцівасць і кладуць гэтыя грошыкі, нібыта медзякі на вочы нябожчыка...

Павел гаварыў спакойна, скупа, як быццам Галіна ўжо ведала ўсё, а ён толькі дапаўняў тое, што яна ведала. А між тым яна была дачкой паштовага служачага; нястача ў іх доме яшчэ не была галаданнем, ды і адносіны паміж суседзямі складваліся проста: на раўназначных і ўзаемных дробных паслугах. Абыходзілася без сваркі, зайздрасці, спачування, парываў і пакутлівых планаў, як карміцца заўтра, каб дачакацца паслязаўтра. Тыя людзі спакойна імкнуліся захаваць сваю грамадскую раўнавагу. Зусім іншая справа—Павел: яго бацька загінуў звычайнай смерцю шахцёра—пад завалам вугалю. Ды і сына не берагла бяспека.

Кахаў ён яе? Кахаў, цалаваў. Быў верны, як мала хто. Аднак яна многа цярпела з-за таго, што ён больш узрушаецца клопатамі і трагедыямі беспрацоўных, чым нясмелым агнём яе дзявочага сэрца. Калі ж настануць дні спакойныя, бесклапотныя? Ён дрыжаў за кожны наступны дзень. Яна не разумела яго, пакуль не прыйшло няшчасце.

Ужо ажаніліся, мелі дзіця. Прыгожым імем яна абдарыла сынка—Уладзімірам, але не магла адарыць прыгожай будучыняй. У шахцёрскай кніжцы Паўла ў 1934 годзе абарваўся почырк майстра, які запісваў працадні. Павел страціў працу. Рукі касіра, што ў апошні раз падаваў праз акенца грошы, як быццам цягнуліся да яго шыі, каб сашчапіцца на ёй і задушыць жыццё. Некалькі месяцаў Галіна не мела на хлеб і малако для Валодзі, пах ад прысмакаў казытаў нос, дражніў, заахвочваў біць шыбы ў крамах, але чалавек баяўся, не выбіваў, і іменна гэта найбольш прыніжала яго.

Згінаючыся пад цяжарам галечы, ён здавалася, праклінаў уладу не за тое, што не было чаго есці, а за тое, што яна зрабіла яго жабраком. Калі б было інакш, то Юзка Міхцік, якая добра выйшла замуж — за стараватага крамніка, не мела б ніякай магчымасці лезці са сваёй літасцю. Яна ж увесь час з'едліва падбухторвала:

— Прыйдзі з кошыкам, калі не будзе майго, пакладу што-небудзь з харчоў. Божачка ж ты мой, колькі даводзіцца жанчыне намучыцца з мужыком! Задурыць такі галаву, а потым бядуй. Я ж заўжды табе казала, што Павел неспакойны і хлеба за ім не паясі. Не выкінулі б яго з шахты, калі б сядзеў ціха. Навошта ён палез у стачачны камітэт?

Вярталася Галіна ад сяброўкі з такім пачуццём, як быццам цэлыя суткі безупынна гаравала. Калі гатавала ежу, Павел збянтэжана ўсміхаўся, аблізваў засмяглыя губы. Як толькі яму ўдавалася натрапіць на жылу на нелегальных распрацоўках вугалю, ён гневаўся і забараняў ёй хадзіць да крамніцы.

Яны ашуквалі адзін аднаго. Яна не падавала выгляду, што, атрымліваючы міласць, адчувае прыніжэнне. Ён, у сваю чаргу, паказваў, што не згодзен з тым, каб яна выпрошвала дапамогу. Нарэшце яны змаглі ўцячы ад блытаніны супярэчнасцей, сярод якіх чалавек выраджаецца ўшчэнт. Павел пачуў пра Сталёвую Волю, пра магчымасць зарабіць там на будоўлях, і пацягнуўся з Галінай і Валодзькам на ўсход. Выдаваў сябе за цесляра, бо ў шахце працаваў на ўмацаванні драўляных штрэкаў.

Жыццё неяк склалася. Не салодкае, але ў меру наладжанае. Праўда, кожны раз, як толькі заканчвалі той ці іншы будынак, вянкі на дахах нагадвалі кветкі на трунах, бо няспынна мучыла боязь беспрацоўя; пасля перапынку зноў хапаліся за новую працу.

Неяк было б... Яна стварыла сабе ў марах раўнавагу. І вось кашуля Паўла, якую яна столькі разоў мыла і цыравала, выпала з яе рук у балею, а паміж пальцамі цячэ крывавая мыльная вада, пад сэрца ж падпірае востры боль. Можа Валодзя застанецца сіратой, а яна—удавой? Нахіліла галаву і зноў пачала мыць скрываўленую кашулю мужа. Вада чырванела, як быццам прыбывала крыві.

Сёння яго паранілі ў часе сутычкі з паліцыяй.

Сціскалася сэрца. Доўга не пакідала прыгнечанасць. Яна прывыкла да многага: і да таго, што Павел праводзіў з ёю толькі змрочныя раніцы, а па начах некуды знікаў. І да таго, што цалаваў і песціў нядоўга, уважліва пазіраючы ў акно аднапакаёвай кватэры. Прывыкла і да таго, што ў час апошніх сходаў актыву Саюза рабочых будаўніцтва і дрэваапрацоўчай прамысловасці, якія адбываліся ў іх пакойчыку, ён, заняты палітыкай, увогуле не прыкмячаў яе прысутнасці. З усім гэтым Галіна згаджалася. Яна, прагная да канчатковага ўрэгулявання жыцця, ужо нават чакала вынікаў змагання. Была гатова згадзіцца і на кроў, хоць у ёй часцінка яе існавання; яна нават сваю жалобу магла б палічыць маладушнасцю недасведчанай жанчыны ў справах рабочага класа. Яна ж ужо разумела многае—яе вочы глядзелі туды, куды паказваў Павел, ды вось ніяк не магла зразумець, што штурхнула яе мужа, а разам з ім і яго таварышаў, якія сходзіліся ў іх, каб падвяргаць сябе небяспецы ў абароне мужыкоў. Кпіны паліцэйскага пяклі, нібы горкая праўда.

З запалых вачэй сплывалі слёзы і змешваліся з цёмнай мыльнай вадой на далонях. Галіна спыніла працу і тупа ўглядалася ў адну кропку за акном. Канчаўся дзень, сонца імкліва падала на ўскудлачаныя вершаліны елак, быццам уразалася ў зялёныя хмаркі. З захаду ж, на небасхіле, цяжка навісла цёмная хмара. Нізка, амаль да зямлі. На яе фоне імчаўся галопам на кані без сядла хлопец. За коннікам гналася фурманка, у якой былі відаць сінія фігуркі. Перад лесам коні рэзка задралі галовы, як быццам спужаліся ценю. Што гэта? Ага, сялянская забастоўка працягваецца... Паліцэйскія праследуюць сувязнога паміж мужыкамі і рабочымі.

Павел гаварыў:

— У вёсцы Стале ўзлятаюць у паветра хаты, экспедыцыя карнікаў лютуе больш, чым найгоршыя вандалы. Дамы раўняюцца з падмуркамі, арыштоўваюць мужыкоў, здзекуюцца, не пашкадавалі нават васьмідзесяцігадовай бабулькі. Чуеш, бабулькі! Пара спыніць бясчынствы. Паказаць рабоча-сялянскі саюз у дзеянні.

Галіна ўжо не была сентыментальнай дзяўчынай, але калі ў час развітання адчула на сваіх плячах дрыготкія Паўлавы рукі, усхвалявалася і загаласіла.

— Ну не плач... не плач,—супакойваў ён яе трохі збянтэжаны і засаромлены.—Мы ж пасля поўдня ўбачымся.

Не ўбачыліся. Ужо настаў вечар. Сонца іржавай ручаінай схавалася ў лясным парасніку. Потым прыйшоў стары цесляр Сосняк, і яна з яго вуснаў пачула жахлівую вестку.

Сосняк заходзіў да іх не адзін раз з іншымі таварышамі, забаўляўся з Валодзем, прыносіў яму цацкі, але Галіна яго не любіла. Слова ад яго не выцягнеш. Сядзеў згорблены, непрыкметна падтакваў Паўлу сівымі бровамі, пыхкаў люлькай і сапраўды, бог яго ведае, пра што ён думаў. Можа шпік? Маўчаў, нават стрымліваў старэчае сапенне. Яго твар таксама не заахвочваў да сімпатыі—падзёўбаны нейкім чорным пылам, шурпаты. Павел смяяўся з яе недаверлівасці.

— Ён такі ж самы, як і мы... Не бойся, ён, калі падтаквае, то ўсім сэрцам, калі ж прапануе табе руку, то шчыра. Будаўнікі вераць яму і ахвотна яго слухаюць. Ён у нас найстарэйшы. А прайшоў ён о-го-го, ад парабка да... Ты павінна яго любіць, яго, як і мяне, таксама выгналі з шахты.

Сосняк, нягледзячы на пажылы ўзрост, заўжды лёгка пераступаў парог Паўлавага дома, а сёння пасля поўдня ён увайшоў неяк вяла, з сумна скрыўленымі вуснамі пад белымі пышнымі вусамі. Галіна завіхалася ля грубкі. Валодзька, падымаючыся на дыбачкі, выцягваў тонкую шыю і глядзеў, што яна робіць. На прыход суседа яна не рэагавала, толькі недаверліва зірнула, калі ён упаў на ложак і, цяжка прыціскаючы далоні да каленяў, запытаў:

— Павел не прыйшоў?

Пытанне прагучала неяк вельмі глуха. Яна таропка адступіла ад пліты і глядзела з чаканнем, трывожна.

— Што здарылася?

Ён ужо не ўтойваў.

— Яго завезлі ў бальніцу,—прашаптаў дзед усхвалявана.—Ляці хутчэй. Нікога туды не пускаюць... можа цябе пусцяць.

Павел ляжаў у бальнічным ізалятары пад наглядам паліцэйскага. Ён падобны быў больш на смяртэльна стомленага, чым на непрытомнага. Неспакойна булькала ў яго грудзях, глыбокая рана пад пахай яшчэ крывавіла, новыя маршчыны на ілбе ад скроні да вуснаў білі трывогу аб ціхім падкрадванні смерці. Галіна, стоячы на каленях, штосьці крычала, не магла ўцяміць, чаму ў палаце такая жахлівая цішыня, чаму не чуваць шолаху фартухоў, не відаць бляску ланцэтаў.

Паліцэйскі, зашпілены на апошні гузік, пацеў у гарачыні жніўня і здзіўлена вытрэшчваў вочы. Калі адышоў першы жах, яна спытала ў яго, як гэта здарылася, што трапілі іменна ў Паўла. Ён жа ніколі нікога не крыўдзіў, хоць з яго сілай рэдка хто мог параўняцца. Лепей бы забівалі рабочых разам з жонкамі і дзецьмі. Крычала. Хацела ўцішыць свой боль і прымусіць паліцэйскага гаварыць. Аднак ён упарта маўчаў і гэтай упартасцю падкрэсліваў сваю варожасць. Толькі перад яе адыходам, калі яна загарнула кашулю мужа ў газету «Кур'ер» з хлуслівым загалоўкам аб сутыкненнях і хваляваннях у павеце, ён уздыхнуў з палёгкай ды, мабыць, каб хутчэй ад яе адкараскацца, прабурчаў:

— Як вар'ят кінуўся на штык, а штык вядома... Вы за вар'ята выйшлі замуж.

У яе закружылася галава, у вейках прамільгнула карціна сутыкнення чалавека бяззбройнага з узброеным і ўявіла сабе, што Паўла чакала смерць.

— Чаму не робіце аперацыі?!—усклікнула яна з лютай нянавісцю.

— Не гарыць. Пакуль пачнецца допыт, вернецца да прытомнасці. Заварыў кашу—хай расхлёбвае.—У тоне паліцэйскага гучала нянавісць. Магчыма, што ў той момант яго думка шукала спосаб, які выключаў такія сустрэчы з жонкамі і дзецьмі—абвінаваўцамі. Выбягаючы, Галіна пачула яго крык:

— Калі цябе яшчэ раз сюды пусцяць, то я выкіну з трэскам. Мала што ён навытвараў, дык яшчэ ты тут...

Калі яна вярнулася дамоў, Сосняк спаў у ложку, прытульваючы да сябе Валодзьку.

Галіна мацней загрукала ў балеі, урэшце стары падняў галаву.

— Можа я хоць цяпер даведаюся?..—сказала яна пакрыўджана. Клопат аб Паўле наблізіў яе да Сосняка, у далікатнасці якога яна ўбачыла нейкую роднасць з мужам. Недаверлівасць знікла. Ён і цяпер быў скупы на словы. Запаліла лямпу, каб твар апавядальніка дагаварыў нешта яшчэ, што ён мог ад яе ўтаіць.

— Як партыя вырашыла, так і зроблена. Забастоўка будаўнікоў. Дапамога сялянам. Магчыма, за адным махам даб'ёмся і павышэння сваёй зарплаты? Можа, калі забастоўка распаўсюдзіцца, падзе ўся іхняя ўлада. Далучыліся і цагельнікі, і рабочыя з лесапілак, і з маёнткаў...

Галіна павесіла вымытую кашулю на край цабэрчыка, мыльная вада сцякала струменьчыкам ля стала. Папраўляючы валасы, як быццам гэтая хвіліна патрабавала найбольш урачыстых адносін, ды хутка міргаючы вейкамі, яна паволі ўяўляла сабе сваю адсталасць: калі б незразумела гераізму Паўла, была б маладушнай у час яго смерці. Аднак яна не хацела канчаткова адмовіцца ад рэштак нараканняў. Яна міжвольна паклала далонь на плячо суседа.

— Ох, як баюся я, каб ён не памёр. Гэты паліцэйскі ў бальніцы чакае яго смерці, гэты звер, не чалавек. Я не папракаю Паўла, але скажыце, навошта яму паміраць за мужыкоў, за нейкую сялянскую забастоўку?..

Стары пакруціў галавой з неадабрэннем:

— Не ўцяміла. А гэта ж ясна. Выйшла ты замуж за рэвалюцыянера, гэта значыць—за самага высакароднага чалавека.

Яна смялей паглядзела ў вочы Сосняку—упэўненая, што іх дружба не мае нічога агульнага з міласцінай.

Дзіўна паводзяць сябе чалавечыя сэрцы: яны баяцца крыві, але кроў змацоўвае іх найхутчэй і наймацней.

Нечакана з-за хмар выклюнуўся месяц і сваім бляскам дакрануўся тварыка Валодзі, які спаў. Хлопчык прачнуўся і спытаў: «Дзе тата?» Галіна схапіла сынка на рукі і пяшчотна гаварыла яму, што сёння тата дамоў не прыйдзе, а вось заўтра... заўтра ён яго напэўна ўбачыць.

— Але ля таты стаіць страшны жандар,—скончыла яна са злосцю.

Хмары зноў засланілі месяц, а неба высвяціў пражэктар. Паімчаўся ў напрамку вёскі Стале, знізіўся і кінуўся, нібыта, сабака, які па слядах шукае крыві.

Пераклаў з польскай
Пятро СТЭФАНОВІЧ.

